E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 12 (41) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КАСТРЫЧНІК 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Свой шлях у Еўропу!



# Зварот прадстаўнікоў беларускай грамадскасці да кіраўнікоў краінаў Еўразвяза, СНД і ЗША

**Глыбокапаважаныя кіраўнікі краінаў Еўрапейскага Звяза, СНД і ЗША!**

**Мы ўпэўненыя, што адносіны паміж нашымі краінамі павінны развівацца на традыцыях дружбы, культурнага і эканамічнага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі. Аднак у нашай агульнай гісторыі ёсць і такія старонкі, пра якія балюча ўспамінаць, але якія нельга забываць, бо гісторыя мае ўласцівасць паўтарацца.**

На жаль, паўтарэнне трагічных падзеяў еўрапейскай гісторыі можа, на нашую думку, адбыцца ў Беларусі. Чалавек, які дзесяць год назад быў выбраны першым Прэзідэнтам краіны, аказаўся нявартым улады. Яшчэ на пачатку свайго праўлення ў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкай газеты «Хандэльсблатт» Аляксандр Лукашэнка прагаварыўся аб сваіх сімпатыях да Гітлера. Яго далейшая дзейнасць на чале дзяржавы не раз пацвярджала невыпадковасць гэтага прызнання. Замест абяцаных дэмакратычных рэформ, ён выкарыстаў дадзеныя яму народам агромністыя паўнамоцтвы для стварэння сістэмы адзінаасобнай улады.

На вышэйшыя кіраўнічыя пасады ў Беларусі прызначаюцца людзі, якія падазраюцца ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў – выкраданні і забойстве вядомых палітычных дзеячаў, якія мелі мужнасць адкрыта супрацьстаяць цяперашняму рэжыму. Беларусь так і не выканала патрабаванняў АБСЕ па прывядзенні свайго выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі нормамі, якія выключаюць фальсіфікацыі пры правядзенні выбараў і рэферэндумаў. Падвойныя стандарты, цынізм і непрыхаваная хлусня выкарыстоўваюцца цяперашнім кіраўніцтвам нашай краіны не толькі ва ўнутранай, але і ў знешняй палітыцы, што вядзе да ізаляцыі Беларусі ад развітых цывілізаваных краін. Беларускае кіраўніцтва ўсталёўвае шчыльныя кантакты з найбольш адыёзнымі рэжымамі ў свеце.

Усё гэта адбіваецца, у прыватнасці, і на адносінах з галоўным стратэгічным партнёрам Рэспублікі Беларусь – Расійскай Федэрацыяй. Ужо ні для каго не сакрэт, колькі каштавала Расіі рыторыка і спекуляцыі на братніх пачуццях паміж рускімі і беларусамі, якія Аляксандр Лукашэнка выкарыстоўвае для атрымання падтрымкі свайму рэжыму.

Сёння Беларусь стаіць на парозе важных падзеяў. 17 кастрычніка выбары ў беларускі парламент. На гэтую ж дату Аляксандр Лукашэнка прызначыў рэферэндум з мэтай змяніць Канстытуцыю, скасаваўшы ў ёй абмежаванне знаходжання на пасадзе кіраўніка дзяржавы двума пяцігадовымі тэрмінамі, і атрымаць тым самым права бясконца выбірацца на пост прэзідэнта.

Улічваючы, што фальсіфікацыі пры правядзенні выбараў і рэферэндумаў у Беларусі сталі традыцыяй, мы лічым, што над дзесяццю мільёнамі беларусаў навісла пагроза апынуцца пажыццёвымі закладнікамі ў аднаго чалавека з сумнеўнымі маральнымі якасцямі і схільнасцю да дэспатызму.

Указ аб рэферэндуме А. Лукашэнка выдаў у дзень жалобы па ахвярах тэрору ў Беслане, цынічна скарыстаўшы момант, калі ўвага расійскай і сусветнай грамадскасці была занятая гэтай трагедыяй.

Аб'яўлены рэферэндум незаконны. Артыкул 112 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь адназначна забараняе выносіць на рэспубліканскі рэферэндум пытанні, «звязаныя з выбраннем і вызваленнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь...».

Ствараецца небяспечны прэцэдэнт. Упершыню ў сучаснай гісторыі Еўропы на рэферэндуме будзе абмяркоўвацца пытанне аб тым, каб канкрэтная асоба атрымала права балатавацца на пасаду прэзідэнта ў абход усталяваных законам выбарчых працэдур.

Пераважная большасць беларусаў усведамляе небяспеку ўсталявання ў краіне пажыццёвай дыктатуры А.Лукашэнкі і выказваецца супраць незаконна назначанага рэферэндуму. Аднак таталітарная сістэма ўлады, якая дзейнічае сёння ў краіне, выключае магчымасць сапраўднага выяўлення волі народа. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі вядуць беспрэцэдэнтную па сваім цынізме прапагандысцкую кампанію за рэферэндум і за Аляксандра Лукашэнку як безальтэрнатыўнага кандыдата на пост прэзідэнта. У выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў практычна не дапушчаны прадстаўнікі апазіцыйных партый і дэмакратычнай грамадскасці. Дзейнае выбарчае заканадаўства не дазваляе назіральнікам рэальна ажыццяўляць свае функцыі. «Папярэдняе галасаванне», на якое ўжо цяпер у масавым парадку пачынаюць заганяць людзей, дае ўладам магчымасць ужо да дня выбараў атрымаць жаданыя вынікі, укінуўшы патрэбную колькасць бюлетэняў на працягу 5 начэй, калі урны будуць заставацца на ўчастках пад іх «аховай».

Мы ўдзячныя кіраўніцтву і прадстаўнікам грамадскасці краін Еўрапейскага Звяза, ЗША і Расіі, якія неаднаразова выказвалі сваё негатыўнае стаўленне да жадання А.Лукашэнкі бестэрмінова ўладарыць у Беларусі. І ўсё ж відавочна, што беларускі рэжым робіць стаўку на тое, што міжнародная супольнасць, канстатаваўшы факты фальсіфікацый выбараў і рэферэндуму і прыняўшы з гэтай нагоды некалькі рэзалюцый, сцерпіць здзейсненае беззаконне і будзе вымушанае паранейшаму падтрымліваць дыпламатычныя, эканамічныя і іншыя адносіны з рэжымам.

З гісторыі, у тым ліку зусім нядаўняй, мы ведаем, як дорага можа каштаваць такая «дабрадушная цярплівасць» да фактаў яўнага самавольства не толькі беларусам, але і народам Еўропы і свету.

Сёння настае момант ісціны не толькі для нас, беларусаў. Ад таго, наколькі справядліва пройдуць выбары ў нашай краіне, наколькі цвёрдай, прынцыповай і ўзгодненай будзе пазіцыя краін СНД, Еўрапейскага Звяза і ЗША ў дачыненні да антыканстытуцыйнай узурпацыі ўлады ў Беларусі, будзе залежаць будучыня адносінаў паміж нашымі краінамі.

Мы ўпэўненыя, што гэтыя адносіны павінны будавацца на аснове нормаў маралі. Усе трагічныя падзеі, якія каштавалі чалавецтву незлічоных ахвяраў, адбываліся тады, калі гэтыя нормы парушаліся. Той, хто заплюшчвае вочы на грубае парушэнне асноў законнасці і дэмакратыі ў іншых, – па сутнасці, праяўляе прыхільнасць да выкарыстання такіх самых метадаў і ў сябе. Той, хто выказвае прыхільнасць да ідэалаў свабоды, дэмакратыі і павагі да законнасці, павінен пацвярджаць гэта канкрэтнымі ўчынкамі.

Таму мы вырашылі звярнуцца да вас з заклікам выразна, адназначна і кансалідавана акрэсліць пазіцыю ў дачыненні да спробы антыканстытуцыйнай узурпацыі ўлады, якая рыхтуецца ў Беларусі, і даць ёй належную ацэнку.

Беларусы цэняць дружбу і памятаюць дабро. Ніколі не забудзем мы і дапамогі ў справе пабудовы ў нашай краіне цывілізаванага, свабоднага і дэмакратычнага грамадства, на якую спадзяемся.

З глыбокай павагай

Мінск,
11 кастрычніка

**БАГДАНКЕВІЧ Станіслаў**, экс-старшыня Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь, дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання, **БАНДАРЭНКА Зінаіда**, народная артыстка Беларусі, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі, **БАРАДУЛІН Рыгор**, народны паэт Беларусі, ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, **БАРШЧЭЎСКІ Лявон**, прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, **БУРАЎКІН Генадзь**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы, надзвычайны і паўнамоцны пасол, **ВАЙТОВІЧ Аляксандр**, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня Савета Рэспублікі і Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь (2000–2003), **ГАРЭЦКІ Радзім**, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, замежны член Расійскай акадэміі навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і СССР, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, **ДАБРАЛЮБАЎ Ігар**, прафесар, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, **ЗАКОННІКАЎ Сяргей**, паэт, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, **КОЛАС Уладзімір**, кінарэжысёр, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі, **КОНАН Уладзімір**, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **ЛЕОНАЎ Васіль**, старшыня апякунскай рады Беларуска-расійскага фонду «За новую Беларусь», **ЛІС Арсен**, літаратар, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **ЛІХТАРОВІЧ Георгій**, фотамастак, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі, **МАЗЫНСКІ Валерый**, рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, **МАРАЧКІН Аляксей**, мастак, намеснік старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі, **НІКІТЧАНКА Іван**, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, член управы Рады беларускай інтэлігенцыі, **ОРГІШ Вячаслаў**, доктар філасофскіх навук, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Народная воля», **ПАРФЯНОВІЧ Уладзімір**, дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, трохразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў, дзевяціразовы чэмпіён свету і Еўропы, **ПАЎЛАЎ Анатоль**, старшыня праўлення Беларуска-расійскага фонду «За новую Беларусь», **ПАШКЕВІЧ Алесь**, старшыня Беларускага саюза пісьменнікаў, **ФРАЛОЎ Валерый**, дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, генерал, **ХАЛІП Уладзімір**, пісьменнік, кандыдат мастацтвазнаўчых навук, **ШАТЭРНІК Аляксандр**, скульптар, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі, **ШУШКЕВІЧ Станіслаў**, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі (1991-1994), член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, **ЯКАВЕНКА Васіль**, пісьменнік, лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі Фрыцьофа Нансена, **ЯРАШУК Аляксандр**, старшыня грамадзянскага аргкамітэта абароны Канстытуцыі, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў

# «Знясуць? Не знясуць? А можа, перадумаюць?»

***Высновы «круглага стала» па праблемах Сельгаспасёлку***

12 кастрычніка ў рэдакцыі «Новага Часу» адбыўся «круглы стол» па праблемах сучаснага горадабудаўніцтва. Ідэя яго правядзення ўзнікла пасля публікацыі матэрыялу Леаніда Вялічка «Знясуць? Не знясуць? А можа, перадумаюць?», які падымаў праблемы, звязаныя з мяркуемым зносам часткі Сельгаспасёлку ў Мінску па вул. Багдановіча («Новы Час», № 10).

Да ўдзелу запрашаліся прадстаўнікі гарадской і раённай выканаўчых уладаў. Аднак, як і прагназавалася, яны сустрэчу праігнаравалі. Між тым, пытанні, якія падымае ў сваіх матэрыялах былы супрацоўнік НАН Беларусі Л.Вялічка, датычаць здароўя людзей, закранаюць іх правы прыватнай уласнасці. Падчас зацікаўленай размовы, у якой бралі ўдзел сп. А.Жучкоў, прадстаўнік грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі», дэпутат Мінскага гарадскога савета ў 1990-1996 гадах, сп. В.Вячорка, старшыня Партыі БНФ, жыхар Савецкага раёна Мінска, згаданы Л.Вялічка, прадстаўнікі СМІ.

Пры ўсёй вастрыні ўзнятых праблемаў удзельнікі «круглага стала» прыйшлі да несуцяшальнай высновы, што ў сённяшняй сітуацыі дабіцца станоўчага іх вырашэння надзвычай складана. У грамадзян няма поўнай інфармацыі пра рашэнні, якія непасрэдна датычаць умоваў іхняга жыцця і прымаюцца на раённым і гарадскім узроўнях.

Акрамя таго, органы мясцовага самакіравання мала дзе створаны, слаба дзейнічаюць. У дадатак да ўсяго выканаўчая ўлада не абавязана несці справаздачы перад грамадзянамі, нягледзячы на іх шматлікія запыты і звароты ў розныя дзяржаўныя інстанцыі.

На падставе абмену думкамі ўсе пагадзіліся, што неабходнасцю становіцца існаванне камітэтаў грамадзянскага самакіравання, заканадаўчае пашырэнне іх паўнамоцтваў і такім чынам павышэнне прававой свядомасці грамадзянаў, іх рэальнага ўплыву на абарону ўмоваў свайго жыцця.

**У.К.**



# Дыспут мэтраў пяра, ці Не чыталі, але ацэнкі выкажам

***Якім бачыцца «Акт аб дэмакратыі» зь беларускай пэрспэктывы? – пра гэта дзеляцца думкамі на Радыё Свабода ў перадачы «Праскі акцэнт» галоўны рэдактар «Нашай нівы» Андрэй Дынько і галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павал Якубовіч. Асаблівы шарм гэтаму абмеркаванню надае тая абставіна, што абодва рэдактары шчыра прызналіся, што тэкст «Акта» не чыталі. З гэтае прычыны вядоўца перадачы Юры Дракахруст мусіў нават узгадаць пра традыцыйны савецкі характар палемікі.***

**Дракахруст:** У чацьвер кіраўнік Беларусі выступіў з рэзкім адказам на прыняцьце Палатай прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША «Акту аб дэмакратыі ў Беларусі». Гэты дакумэнт прадугледжвае прынамсі пэўныя эканамічныя санкцыі адносна Беларусі (адмова ад міжурадавых крэдытаў, дапамогі, інвэстыцыяў) і ўтрымлівае загад прадстаўнікам ЗША ў міжнародных фінансавых арганізацыях блякаваць прадстаўленьне Беларусі крэдытаў і дапамогі. З постсавецкіх краінаў раней падобныя санкцыі ЗША ўводзілі толькі адносна Туркмэністану.

Аляксандар Лукашэнка назваў гэты крок «дурным ціскам», «найлепшым падарункам уладам». Ён заявіў: «Мы павінны ня проста выйграць рэфэрэндум і выбары, мы мусім каменя на камяні не пакінуць ад унутранай і вонкавай апазыцыі, каб амэрыканцы ведалі, што іх дзікія патрабаваньні дадуць уладзе дадатковыя 10% падтрымкі».

У чацьвер «Акт аб дэмакратыі» ўхваліў Сэнат ЗША. Выглядае, што ёсьць імкненьне цалкам прыняць гэты дакумэнт да 17 кастрычніка, дня галасаваньня ў Беларусі. На Ваш погляд, ці сапраўды крок амэрыканскіх парлямэнтароў такі ўжо дзікі, і ці сапраўды ён спрацуе падчас галасаваньня 17 кастрычніка на беларускія ўлады – альбо варта чакаць іншай рэакцыі? Спадар Якубовіч, як Вы мяркуеце?

**Якубовіч:** Мне цяжка казаць пра працэнты. Мне сама ідэя прыняцьця такога дакумэнта ў разгар выбараў падаецца непрыхаванай спробай амэрыканскай адміністрацыі й парлямэнту паўплываць на вынікі галасаваньня. Паўплываць, зразумела, у накірунку, які ім у Вашынгтоне падаецца правільным.

Што тычыцца ўплыву на электаральныя сымпатыі беларускага выбаршчыка, то шмат людзей, вельмі верагодна, адчуюць сябе пакрыўджанымі, што на іх волевыяўленьне спрабуюць паўплываць людзі здалёк. Тым больш амэрыканцы, да якіх, як вядома, стаўленьне ў краінах Усходняй Эўропы і ў постсавецкіх краінах дастаткова нядобразычлівае. На жаль, нядобразычлівае – я не хачу казаць пра прычыны, я канстатую факт. Цалкам магчыма, што некаторыя з тых, хто ня вызначыўся, адчуўшы сябе зьняважаным, насуперак амэрыканскаму ціску, прагаласуюць адлаведна. Магчыма, іх будзе тыя 10%, пра якія гэтак эмацыйна казаў прэзыдэнт. Можа, гэта будзе


Павал Якубовіч


Андрэй Дынько

меншая лічба. Але мне здаецца, што большая частка выбаршчыкаў наагул ня надта разумее, пра што ідзе гаворка, не разумее вэктар гэтага амэрыканскага руху.

Таму я мяркую, што ўрэшце акт аб дэмакратыі і ўся гэтая эмацыйная хваля вакол яго наўрад ці будзе мець нейкі рэзананс і наўрад ці істотна паўплывае на электаральныя сымпатыі й волевыяўленьне ў дні выбараў і рэфэрэндуму. Што тычыцца рэфэрэндуму, то гэта асобная праблема, і наўрад ці яго можна зьвязваць з «Актам аб дэмакратыі.

**Дракахруст:** Спадар Дынько, а які Ваш прагноз? Як, на Ваш погляд, прыняцьце ў дадзены момант дзьвюма палатамі Кангрэсу ЗША «Акта аб дэмакратыі ў Беларусі» можа паўплываць на электаральныя настроі на выбарах і рэфэрэндуме?

**Дынько:** Рэакцыя людзей на гэта будзе моцна залежыць ад падачы гэтага факта. Я мяркую, што рэакцыя людзей на любое ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы з-за мяжы можа быць толькі нэгатыўнай. Таму зразумела, чаму ўлады гэтак шмат гавораць пра гэты «Акт аб дэмакратыі» ў астатнія дні. Але мне падаецца, што яны выбралі ня самую лепшую рэакцыю на гэта. Паводле апытаньня сацыялягічнага цэнтра Левады, 50% жыхароў Беларусі лічаць, што ня варта прыслухоўвацца да Захаду, вырашаючы ўнутраныя справы краіны. Але калі б задавалі пытаньне, ці варта «задзірацца» з Захадам і прынамсі з Амэрыкай, то думаю, што 80% адказалі б, што ня варта. А тут якраз рэакцыя была хутчэй «задзірыстая». А гэтае задзіраньне ня дасьць нам прадаваць жлобінскія трубы ў Амэрыку ці пружанскі сыр у нямецкія супэрмаркэты.

Тут трэба таксама прыгадаць, на што быў рэакцыяй гэты акт. Лукашэнка сам фактычна першы пачаў неабвешчаную вайну Амэрыцы, езьдзіў у Тэгеран, у Дамаск, скалочваў антыамэрыканскі інтэрнацыянал. Ён жа напэўна разумеў, што робіць. І «Акт аб дэмакратыі» – гэта проста рэакцыя на тое, што рабілася тут.

Калі казаць пра выбар людзей, то зразумела, што, напрыклад Ірына Красоўская ці Васіль Старавойтаў не памяняюць свайго рашэньня прагаласаваць «супраць» на рэфэрэндуме толькі з тае прычыны, што недзе за акіянам прынялі «Акт аб дэмакратыі для Беларусі». Ёсьць таксама людзі, якія не памяняюць свайго рашэньня галасаваць «за».

Мне падаецца, што ў барацьбе за галасы тых, хто ня вызначыўся, паліттэхнолягі ўлады арыентуюцца на тую частку электарату, якая раней ня думала ісьці на рэфэрэндум. Яны хочуць іх прыцягнуць на выбарчыя ўчасткі. Відавочна, што людзі, якія вагаюцца, цэнтрысты – яны хутчэй нэгатыўна паставяцца да такой рэзкай рэакцыі і наагул да любой рэзкай рыторыкі.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, Вы сказалі, што людзі проста мала ведаюць пра зьмест гэтага Акта, мала разумеюць прыроду закону, прынятага ў ЗША, падставы, на якіх ён быў прыняты. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі Беларусі, скажам так, не зусім дакладна выкладаюць тэзы гэтага дакумэнту. Вы маглі б у «Советской Белоруссии» надрукаваць пераклад гэтага «Акта аб дэмакратыі», тым больш што некалькі месяцаў таму Аляксандар Лукашэнка, дарэчы, казаў, што варта яго надрукаваць – тады, маўляў, народ пракляне апазыцыю?

**Якубовіч:** Я не чытаў, ня бачыў і ня ведаю, што за дакумэнт – «Акт аб дэмакратыі для Беларусі». Гэта дакумэнт амэрыканскі, прычым на сёньняшні дзень – гэта праект службовага дакумэнта, які праходзіць апрабацыю ў розных інстанцыях ЗША. Гэта цікава, але я сам яго ня бачыў, дзярждэпартамэнт і Кангрэс не дасылаюць гэтыя матэрыялы ў Беларусь. Мне вядомыя толькі нейкія агульныя тэзы гэтага дакумэнта, на якія нашая газэта адгукалася й камэнтавала іх.

Што тычыцца таго, ці надрукаваў бы я яго, то з рэдактарам можна размаўляць пра гэта толькі тады, калі ён да яго патрапіць – дакумэнт, матэрыял, чытацкі ліст ці што іншае. Прышлюць амэрыканцы гэты матэрыял – я разгляджу магчымасьць яго публікацыі. Але размовы пра «прелестное письмо», якое нібыта хаваюць ад народу (гэта папулярная тэма ў расейскай гісторыяграфіі) – гэта ня так, ніхто не хавае гэтага выдатнага акта, бо ня толькі чытач, але й рэдактар яго на вочы ня бачыў.

**Дракахруст:** Спадар Дынько, хаця Вам у «Нашу ніву» хутчэй за ўсё таксама не прысылалі гэты дакумэнт зь Дзярждэпартамэнта й Кангрэса, але, магчыма, Вы зь ім азнаёміліся на сайце Кангрэсу ЗША, які ня ёсьць сакрэтнай крыніцай. Калі Вы ведаеце зьмест гэтага акту, то, на Ваш погляд, у якой ступені ён зьяўляецца ціскам на Беларусь, умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі, спробай паўплываць на вынікі галасаваньня 17 кастрычніка?

**Дынько:** Я таксама не чытаў гэты акт, гэта ўсё ж такі амэрыканскі дакумэнт, а ня беларускі, і для нас тут, відаць, і ня ўсё ў ім цікава. Зь Менску вельмі цяжка меркаваць пра лёгіку, якой кіруецца Вашынгтон, мы вельмі мала ведаем пра тое, як пабудаваная амэрыканская дзяржаўная машына.

Я ў гэтым акце бачу некалькі знакаў і, магчыма, ня самы галоўны зь іх скіраваны ў бок Беларусі. Івонка Сурвіла інтэрпрэтавала гэты акт як знак таго, што Беларусь не аддаюць Маскве, што Вашынгтон не прызнае права Масквы вырашаць лёс Беларусі. І калі гэта так, то гэта вельмі пазытыўна, паколькі менавіта наша беларуская эміграцыя настойвала на прыняцьці гэтага акту. Я не выключаю, што прыняцьцё гэтага акта ўпісваецца ў нейкі ўнутрыамэрыканскі перадвыбарчы сцэнар, каб заваяваць галасы эмігрантаў зь Беларусі і іншых краінаў Усходняй Эўропы. Гэта немалаважна, гэта тое, пра што тут не гавораць.

Мне ў прыняцьці гэтага акта бачыцца спроба падаць знак украінскаму кіраўніцтву падчас цяперашняй перадвыбарчай кампаніі. Гэта, напэўна, і знак нашым уладам: «Не падтасоўвайце выбары, будзеце мець праблемы, калі будзеце падтасоўваць». Гэта, магчыма, знак беларускай апазыцыі: «Пра вас памятаюць, пра вас ведаюць, вашы каштоўнасьці – гэта і нашы каштоўнасьці».

Ці можна разглядаць гэта як ціск на Беларусь? Вельмі не хацелася б, каб на Беларусь нехта ціснуў. Амэрыка кіруецца сваімі меркаваньнямі, яна разглядае сябе як супэрдзяржаву, якая мае інтарэсы ва ўсім сьвеце. І гэта блізка да праўды. Сапраўды, гэта нейкая незвычайная фінансавая, вайсковая, палітычная, культурная магутнасьць. На маю думку вельмі важна было б Беларусі ў сваёй замежнай палітыцы рабіць так, каб унікаць праблемаў з супэрдзяржавамі. Я думаю, што калі б зараз пры ўладзе былі б іншыя людзі, калі б пры ўладзе была апазыцыя, яна б здолела не дапусьціць прыняцьця гэтага акта. Яна таксама змагла б зрабіць так, каб ніводны кіраўнік замежнай дзяржавы не прапаноўваў далучыць Беларусь «шасьцю абласьцямі» да сябе.

Мне здаецца, што прыняцьце гэтага акта – гэта вялікая параза замежнай палітыкі Беларусі, беларускай дыпляматыі. У іншай краіне міністар замежных справаў сышоў бы пасьля гэтага ў адстаўку, бо ён ня здолеў гэтага прадухіліць. Наступствы гэтага для эканомікі Беларусі будуць адназначна нэгатыўнымі.

**Дракахруст:** У нас атрымліваецца такая савецкая размова – па меншай меры два суразмоўцы ня бачылі, так бы мовіць, прадмету абмеркаваньня. Але гэта нармальна. Шмат хто называе акт аб дэмакратыі ціскам на Беларусь, кіраўнік дзяржавы сказаў, што гэта «дурны ціск». Але сутнасьць прадугледжаных санкцыяў – ЗША адмаўляюцца выкарыстоўваць дзяржаўныя грошы на дапамогу беларускаму ўраду, акрамя гуманітарных мэтаў. Некалькі тыдняў таму спадар Якубовіч тлумачыў сваім чытачам, што адмаўляецца друкаваць на старонках сваёй газэты артыкулы Вінцука Вячоркі. ЗША адмаўляюцца даваць Беларусі свае дзяржаўныя грошы, бо палітыка Менску ім не падабаецца – гэта ціск. А калі спадар Якубовіч адмаўляецца друкаваць спадара Вячорку – гэта таксама ціск?

**Якубовіч:** Тут яўная недарэчнасьць. Вячорка даслаў у газэту ня свой матэрыял, а заяву партыі. Заяваў партыяў газэта не публікуе – ніякіх, ані левых, ані правых, гэта ня дошка аб'яваў. Вячорку было «папулярна патлумачана», што калі Вы хочаце надрукаваць матэрыял, то напішыце й прынясіце – гэта агульнае правіла.

Што тычыцца таго, ціск ці ня ціск. Я разумею сур'ёзнасьць развагаў Андрэя Дынько, які спрабуе разгледзіць сытуацыю з геапалітычнага пункту гледжаньня сувэрэннай краіны Беларусь. І ў яго прасьлізнула думка, што «Акт аб дэмакратыі» быў прыняты, каб даць сыгнал Украіне, паводле Сурвілы – для таго, каб паказаць нешта Расеі. Ёсьць прымаўка: «Кошку б'юць, а нявестцы павестку даюць». Беларусь выкарыстоўваецца як элемэнт ў вялікай геастратэгічнай гульні Злучаных Штатаў, у іх імкненьні й далей дамінаваць. Я згодны з Андрэем, што гэта вялікая краіна, звышдзяржава, якая з прычыны вялікага ваеннага, палітычнага, эканамічнага й іншага рэсурсу бярэ на сябе такое права міжнароднага рэгуліроўшчыка. Не заўжды гэта, праўда, атрымліваецца, мы гэта бачым хаця б у Іраку.

Крыўдна толькі, што гэты акт проста выкарыстоўвае Беларусь у гульні на вялікай шахматнай дошцы, як казаў Збігнеў Бжэзінскі. Гэта не зусім справядліва, калі вялікая краіна – Злучаныя Штаты – выкарыстоўваюць нас у якасьці фішкі, каб паказаць іншым – калі зробіце гэтак, будзе тое, калі ня зробіце гэта – будзе іншае.

З гэтага мала што атрымаецца добрага, у тым ліку для Беларусі, і ня толькі сёньняшняй. Гэта, магчыма, радуе палітычную апазыцыю і нейкіх іншых назіральнікаў. Але размова ідзе пра надзвычай сур'ёзныя палітычныя пэрспэктывы Беларусі. Я спадзяюся, што мы яшчэ закранем гэтую тэму, я ўпэўнены, што ў Андрэя Дынько заўсёды ёсьць арыгінальныя і патрыятычныя погляды на гэты конт.

**Дракахруст:** Спадар Дынько, я таксама чакаю ад Вас патрыятычнага водгуку. У «Акце аб дэмакратыі», які мы абмяркоўваем, вылучаюцца пяць патрабаваньняў ці пажаданьняў, ня ведаю, як гэта лепш назваць. Размова ідзе пра вызваленьне тых, хто быў арыштаваны за палітычныя і рэлігійныя перакананьні, спыненьне палітычна матываваных юрыдычных абвінавачваньняў супраць апазыцыянэраў і журналістаў, поўнае дасьледаваньне справаў зьніклых палітыкаў, спыненьне перасьледу незалежных мэдыяў, прафсаюзаў, недзяржаўных арганізацыяў і правядзеньне свабодных і справядлівых выбараў. А што калі б раптам беларускія ўлады ўзялі б ды й зрабілі гэта,

 



# Онлайн-канфэрэнцыя зь Вінцуком Вячоркам

***12 кастрычніка на сайце svaboda.org адбыўся форум са старшынём БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ Вінцуком Вячоркам. Ён адказаў на пытаньні слухачоў Радыё Свабода і наведнікаў сайту. Прапануем вашай увазе тэкст канфэрэнцыі***



Вінцук Вячорка нарадзіўся 7 ліпеня 1961 г. у Берасьці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсітэт і аспірантуру Акадэміі навук Беларусі. Працаваў выкладчыкам у Пэдагагічным унівэрсітэце. Лінгвіст. Ведае 9 замежных моваў. Выкладаў у Карлавым універсітэце (Чэхія), Віленскім унівэрсітэце, Кіева-Магілянскай Акадэміі. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Спадчына».

У грамадска-палітычным жыцьці з 1980 году. З 1999 году старшыня Партыі БНФ.

Старшыня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ. Нарадзіўся 7 ліпеня 1961 года ў Берасьці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру інстытуту мовазнаўства АН Беларусі. Спэцыяліст у галіне правапісу. Адзін з арганізатараў моладзевых суполак «Майстроўня» (1979–1984) і «Талака» (1986–1989), удзельнік пазацэнзурнага друку. Сябра Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту (1988 г.), Сойму (з 1989), намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту (1995–1999). З 1999 – старшыня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ. Неаднаразова падвяргаўся затрыманьням і арыштам за ўдзел у масавых акцыях апазыцыі.

**– Какой смысл принимать участие в референдуме и выборах – ведь видно не вооружённым глазом это ловушка для толерантных белорусов. Обманул в 1996, 1999, 2001, и сейчас в 2004. После 18 октября нужно делать революцию хотя бы как в прошлом году в Грузии?**

– Байкоту ня будзе таму, што бальшыня людзей зьбіраецца ісьці на выбары (альбо будзе на гэтыя выбары прыведзеная). Трэба даць ім магчымасьць прагаласаваць ня толькі супраць пажыцьцёвага прэзыдэнцтва А.Лукашэнкі, але й за дэмакратычнага кандыдата. Хай запомняць маторнай памяцьцю, што зрабілі сьмелы крок, няхай сабе й у кабіне для галасаваньня. А леташнія мясцовыя выбары паказалі нам, што няма таго суцэльнага бэтоннага муру, які сіліцца дэманстраваць зь сябе рэжым. Скрозь муры прабіваецца зяляніна. На мясцовых выбарах паказалі свой патэнцыял таленавітыя пэрспэктыўныя палітыкі Партыі БНФ: Сяргей Антусевіч у Горадні, Юрась Губарэвіч у Белаазёрску, Васіль Главацкіх у Наваполацку, Іван Шэга ў Слоніме, Уладзімір Малей у Маларыце й шмат іншых. Народная падтрымка перамагла шалёны супраціў мясцовае вэртыкалі. Зыходзячы з гэтага досьведу, мы разам з усімі дзеяздольнымі дэмакратычнымі партыямі прынялі рашэньне ўдзельнічаць у цяперашняй кампаніі. Наша задача – стаць выразьнікамі спадзеваў большае паловы насельніцтва. Толькі тады зьмены могуць адбыцца беларускімі рукамі й у беларускіх інтарэсах.

**– Ці лічыце вы эміграцыю беларусаў у Амерыку і Еўропу карыснай для Беларусі ці наадварот шкоднай? Ці можа беларуская эміграцыя адыграць важную ролю ў адраджэнні Беларусі, як гэта было з ірландцамі, літоўцамі, палякамі?**

– У беларускай эміграцыі даўняя гісторыя й маральна-палітычны аўтарытэт Рады БНР – сымбалю беларускае дэмакратычнае незалежнае дзяржаўнасьці. Калі новая эміграцыйная хваля будзе далучацца да аўтарытэтнай і высокаадукаванай «старой» эміграцыі, да незалежніцкае традыцыі, тады яна зможа адыграць станоўчую ролю ў лёсе Бацькаўшчыны. Калі не – яна будзе расьцярушаная паміж іншымі дыяспарамі альбо стане аб'ектам палітычных спэкуляцыяў з боку людзей, вельмі далёкіх ад беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

Сам факт эміграваньня сьведчыць пра тое, што кепскія справы ў нашай краіне. Але не цярплю, калі тыповыя эканамічныя эмігранты выдаюць сябе за палітычных і баюць байкі пра сваю змагарную БНФаўскую біяграфію іміграцыйным чыноўнікам у Бэльгіі ці Нарвэгіі (часам ня ўмеючы зьвязаць па-беларуску двух словаў ці лічачы, што асноўная сьвяточная дата для БНФ – 7 лістапада). Папярэджваю такіх: мы маем добрыя працоўныя кантакты з дэпартамэнтамі іміграцыі ўсіх асноўных краінаў і разам зь імі выкрываем любых фальсыфікатараў, нават калі яны маюць дакумэнты «ад БНФ» (вырабленыя на Брайтан-Біч).

**– 5 октября 2004 года на форуме мной был задан вопрос Николаю Статкевичу, но его ответ на мой вопрос был не конкретным и расплывчатым. Этот вопрос я задаю и Вам, но ответ я хочу услышать от Вас конкретный, т.е. «Да» или «Нет». Вопрос: ЛИЧНО ВЫ ХОТИТЕ СТАТЬ (СЛЕДУЮЩИМ) ПРЕЗИДЕНТОМ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ?**

– Не хачу. Я ня хворы на ўладу. Да таго ж, Партыя БНФ заўсёды была й ёсьць за скасаваньне пасады прэзыдэнта Беларусі (альбо прынамсі ператварэньне яе ў чыста прадстаўнічую).

**– Г-н Вячорка! Скажите пожалуйста: 1). поддерживаете ли Вы отношения с Зяноном Пазьняком? 2). Собирается ли Зянон Пазьняк и вы участвовать в выборах президента РБ в 2006 году? 3). Не думали ли вы о том, чтобы воссоздать (т.е. объединиться с З.Пазьняком) БНФ заново в том качестве, в котором он был в начале и середине 90-х г.? От такого объединения ваши партии только выиграют, не правда ли? Во всяком случае к «старому» БНФ у людей нашей страны осталось больше уважения и доверия. Напрасно члены вашей партии считают З.Пазьняка выброшенным из политической жизни в Республике Беларусь.**

– З 1999 году ёсьць дзьве розныя партыі – гэта БНФ і КХП БНФ. Зьмены, якія адбыліся ў 1999 годзе, былі ня проста кадравымі перастаноўкамі. Гэта быў стратэгічны выбар. Дэмакратычныя колы ў Народным Фронце разумелі, што асноўная незалежніцкая сіла краіны павінна пераўтварыцца ў сучасную партыю, здольную апірацца на прафэсіяналізм, меркаваньні экспэртаў, сучасныя палітычныя тэхналёгіі, на шчыльную супрацу з мас-мэдыямі, на кааліцыйнасьць. Наш прынцып: «Хто ня супраць нас і хто падзяляе нашыя асноўныя каштоўнасьці – той можа быць з намі!» Перад 1999 годам БНФ апынуўся перад прамой пагрозай пераўтварэньня ў сэкту, у клюб кухонных пакрыўджаных, якія не любілі ня толькі Лукашэнку, але й усіх грамадзка-палітычных актывістаў толькі таму, што яны арганізацыйна ня зь імі. З гэтым трэба было сканчаць, калі мы не хацелі поўнай маргіналізацыі нацыянальна-незалежніцкіх сілаў. Думаю, мы здолелі зрабіць паварот да будучыні. Мы пацьвердзілі, што Партыя БНФ рэальная палітычная структура, яна дзейнічае ў агульнабеларускім маштабе, выстаўляе рэальных лідэраў як кандыдатаў на выбары й здольная перамагаць.

Цяпер, падчас выбарчай кампаніі, адбываюцца вельмі важныя працэсы. Людзі ў кожным кутку Беларусі, якія падзяляюць незалежніцкія й дэмакратычныя ідэі, атаесамляюць іх з Партыяй БНФ і яе мясцовымі прадстаўнікамі як сваімі лякальнымі лідэрамі. Бяз гэтага палітычная арганізацыя ня можа існаваць. Аднымі факсамі й зваротамі, апублікаванымі ў «Народнай волі», палітычная сіла ня можа жывіцца ў прынцыпе. Гэта тады проста меркаваньні аднаго асобна ўзятага філёсафа. На жаль, спадар Пазьняк абраў канфрантацыйную танальнасьць пераконваньня людзей у сваёй рацыі, што, на маю думку, тупіковы шлях. Жывучы на эміграцыі, цяжка адчуць эмацыйныя й сацыяльныя настроі людзей. Беларусь мяняецца штодзень. Па-другое, калі дбаць пра адзінства нацыянальна-дэмакратычных сілаў, трэба весьці дыялёг з усімі, хто падзяляе каштоўнасьці незалежнасьці Беларусі, а спадар Пазьняк ад самага пачатку, на жаль, абражае ўсіх тых, хто ня зь ім. І гэта ёсьць прынцыповае нашае адрозьненьне: мы працягваем руку, а спадар Пазьняк, наадварот, руку хавае ў кішэні.

**– Добры дзень. Вінцук Рыгоравіч, Вы размаўляеце на роднай мове, а якімі мовамі яшчэ валодаеце? Што Вы зараз чытаеце? І ці сапраўды Вашы дзеці вучацца за мяжой?**

– Валодаю ангельскай, польскай, украінскай, расейскай, літоўскай, сэрбскахарвацкай, чытаю на ўсіх славянскіх, лацінскай, крыху латыскай, нямецкай, разьбіраю яшчэ некалькі. У гэты момант нічога мастацкага не чытаю, займаюся кампаніяй выбараў і рэфэрэндуму. Да кампаніі чытаў (вычытваў) працяг «Крывавага памолу» Сержука Сокалава-Воюша. Плётку, нібыта мае дзеці вучацца за мяжой, даведаўся ўпершыню ад Вас (выбачайце, Вы не назваліся). Старэйшая дачка вучыцца на факультэце права БДЭУ, сын падпольна займаецца ў зьліквідаваным уладамі Гуманітарным ліцэі, малодшая дачка ў першай клясе 23-й гімназіі (адна зь нямногіх, дзе яшчэ ёсьць беларускія клясы).

**– Учора Лукашэнка сказаў, што «технологий у нас хватит» каб «камня на камне не оставить от оппозиции» – гэта ж прамое ўказаньне Ярмошынай і Со, што да выбараў! Палаткавыя выбары – гэта пастка для вас-кандыдатаў, і для нас-выбарцаў, каб зацягнуць усіх на рэф.!!! Усе БАЙКАТУЙМА рэфэрэндумны фарс!**

– Ня маю ніякіх ілюзіяў. Важна зусім іншае: што ўпершыню за шмат гадоў мы дайшлі да мільёнаў людзей непасрэдна. Толькі так у нас зноў зьявіцца моц. Пра байкот: калі Вы ня ўкінеце бюлетэнь, гэта зробяць за Вас. Калі ўкінеце – ім трэба будзе яго рабіць несапраўдным альбо падмяняць. Не палягчайма ім жыцьця! Акрамя таго: усе лукашысты ў поўным складзе на рэфэрэндум пойдуць. Калі хто й ня пойдзе – гэта будуць нашыя аднадумцы. Атрымаецца, што яўку мы не сарвем, а працэнт «супраць» зьнізім. Але ж няхай прынамсі камісіі ўбачаць рэальны настрой людзей! Бо цяпер ненармальная сытуацыя: нас бальшыня, а мы ў гэта самі ня верым.

**– Еще вопрос: кто у Вас в команде экономисты (только не голословные), что конкретно предлагается. Только без надежды на внешние источники. Я не приверженец Вы поняли кого. Мне просто интересно, валить от сюда или нет?**

– Аўтары й рэцэнзэнты эканамічнай праграмы Партыі БНФ – член-карэспандэнт НАНБ Іван Нікітчанка, д.э.н. Барыс Жаліба, к.э.н. Рыгор Вячорка, Т.Каліноўская, А.Станкевіч. Поўны тэкст праграмы глядзіце тут: http://www.pbnf.org/index.php?index=3. Вось прынцыпы нашае эканамічнае праграмы:

**«Прыватная ўласнасьць – гэта шлях да дабрабыту й стабільнасьці для кожнага й для грамадзтва ў цэлым. Толькі эканамічна самастойны чалавек можа быць па-сапраўднаму годным й свабодным сябрам дэмакратычнага грамадзтва. Таму мы пасьлядоўна падтрымліваем прынцыпы прыватнай уласнасьці і рынкавай эканомікі.**

Мы за моцны вольны рынак у моцнай незалежнай дзяржаве. Пабудова рынкавай эканомікі падвысіць эфэктыўнасьць вытворчасьці, жыцьцёвы ўзровень народу, зраўняе нас зь іншымі эўрапейскімі краінамі й дазволіць уступіць у Эўрапейскі Зьвяз. Мы за прыняцьцё заканадаўчых актаў, неабходных для функцыянаваньня рынкавых мэханізмаў, прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці й зямлю. За шырокае разьвіцьцё прадпрымальніцтва, малога й сярэдняга бізнэсу, за лібэралізацыю цэнаў, зьнешнеэканамічнай і валютнай палітыкі. За рэфармаваньне падатковай сыстэмы на карысьць вытворцаў і прадпрымальнікаў. За незалежнасьць ад выканаўчай улады Нацыянальнага банку й узмацненьне ўстойлівасьці камэрцыйных банкаў. Бюджэтная палітыка павінна вызначацца парлямэнтам краіны й быць празрыстай, структура бюджэту мае быць падначаленай прынцыпам фармаваньня рынкавай эканомікі й спрыяць яе разьвіцьцю».

**– Сп. Вячорка, як вы ацэньваеце пэрспэктывы беларускай мовы пры цяперашнім рэжыме – ці не перайшло грамадзтва рысу незвароту, як кажуць у авіяцыі? І яшчэ: ці ня лічыце, што сустрэчы з выбарнікамі залежна ад сытуацыі можна і трэба праводзіць і па-руску?**

– Можна, але ня трэба. Быў цікавы эпізод на пікеце ля «Паўночнага» ўнівэрсаму ў раёне Зялёны Луг. Стаім пад бел-чырвона-белым сьцягам, вакол віруе народ усіх магчымых узростаў і прафэсіяў, гаворым, спрачаемся, пагаджаемся. Падыходзіць жанчына, кажа: «И на что же вы надеетесь, если говорите с народом в прямом смысле на разных языках?» Я не пасьпеў слова сказаць, як жанчыну сунялі самі «расейскамоўныя» (адносна, вядома) навакольныя людзі: маўляў, хай мы сталі ахвярамі савецкае русыфікацыі, але

 

# Онлайн-канфэрэнцыя зь Вінцуком Вячоркам

родная мова наша беларуская, праблемаў разумець яе ў нас няма, і добра, што нехта ёю з намі гаворыць. Гэта й адказ на Вашае першае пытаньне: нашая мова ёсьць бясспрэчнаю каштоўнасьцю для вельмі многіх людзей, а значыць, захады дзеля вяртаньня ёй належнага статусу будуць падтрыманыя грамадзтвам у неабходнай і дастатковай ступені.

**– Спадар Вячорка, ці спадзяецеся Вы на рэальную перамогу? Зразумела ж, што ўсё як заўсёды падмахлююць. Ці будзе праводзіцца на нашай акрузе міжнароднае назіранне? Калі так, то наколькі эфектыўным яно будзе? Што ўвогуле можна, на вашую думку, супрацьпаставіць падману з боку ўлады пры падліку галасоў?**

– Вам – прыйсьці галасаваць 17-га, як найпазьней. Яшчэ лепш – далучыцца да нашых назіральнікаў (калі згодныя – тэрмінова паведаміце на pbnf@pbnf.org). Будзем: папярэджваць сяброў камісіяў пра адказнасьць, у т.л. крымінальную; назіраць на папярэднім галасаваньні, сям-там выстаўляць начныя пасты; у дзень асноўнага галасаваньня; за падлікам галасоў; за дастаўкай пратаколаў і бюлетэняў. Міжнароднае назіраньне будзе, прычым будуць людзі з посткамуністычных краінаў, якіх не абдурыш.

**– Што будзем рабіць, калі на гэтак званым «рэфэрэндуме» нібыта большая частка выбарнікаў «падтрымаюць прэзідэнта», дазволіўшы яму гэтым заставацца на сваёй пасадзе колькі заўгодна? Ці актывуецца хоць тады наш народ, ці актывуецца міжнародная супольнасьць?**

– Перадусім неадкладна паінфармуем людзей па ўсёй Беларусі, што адбылося насамрэч. Зьбярэм сьведчаньні сьмялейшых сяброў камісіяў. Усе павінны пачаць усьведамляць, наколькі ў монстра гліняныя ногі. Праз пару тыдняў склічам Кангрэс дэмакратычных сілаў, дзе агучым далейшы плян дзеяньняў.

**– Здравствуйте! Не пойму, почему нельзя возродить Беларусь на русском языке. Почему «супολка»? почему «Винцук»? Ведь это и есть та самая щука, что тянет сейчас воз в третью сторону. Можно быть независимыми от России, но при этом говорить на понятном народу языке. БНФ давно дискредитировал себя, конечно не без помощи власти. Может сегодня, чтобы выиграть, нужно играть другую карту?**

– Пытаньне ж ня ў тым, каб гуляць з Лукашэнкам у карты, а ў тым, каб зьберагчы нашую краіну! Намаганьнямі ўлады выкоўваўся чалавек без гістарычнай памяці, без адказнасьці за лёс сваёй зямлі, а значыць – і сваёй сям'і, гэтакі салдацік, якога можна лёгка ўключыць у любы канвэер – сёньня яго забіраюць на зборы ды трэніруюць падаўляць нейкія міжэтнічныя канфлікты, заўтра яго пасылаюць у выбарчую камісію, пасьлязаўтра яму загадваюць яшчэ нешта, патрэбнае для захаваньня самаўладзтва. Нічога супольнага з пэрспэктывай беларусаў як годнага, культурнага й заможнага народу з патрыятызмам гэтае халуйства ня мае. Але там, дзе бязродныя людзі, дзе паўразбураная эканоміка, дзе людзі не ўсьведамляюць сябе асобным народам, – гэта ўсё рана ці позна стане здабычай нейкага больш агрэсіўнага, больш нахабнага драпежніка. Стрымаць агрэсію й нахабства можна толькі ўнутраным патэнцыялам і сьведамасьцю народу. Беларуская гістарычная памяць, традыцыя, мова ёсьць неад'емнымі складнікамі гэтага патэнцыялу годнасьці.

**– Спадар Вінцук! Ці згодныя Вы з тым, што нашае грамадзтва досыць кансэрватыўнае па сваёй сутнасьці, і ці бачыце Вы магчымасьць пашырэньня кансэрватыўных поглядаў сярод моладзі? І ці патрэбна гэта ўвогуле?**

– Кансэрватызм бывае розны: ад захаваўчага да рэвалюцыйнага. Думаю, агульнаэўрапейскія кансэрватыўныя каштоўнасьці сапраўды сугучныя беларускай традыцыі, але, каб яны зноў запанавалі, трэба пераадолець савецкі захаваўчы кансэрватызм старэйшага пакаленьня.

**– Спадар Винцук, станет ли БНФ когда-нибудь действительно широким народным фронтом, объединяющим всех приверженцев политической и экономической свободы, а также все национальности, а не только белорусскоязычную творческую интеллигенцию?**

– У Вас састарэлае ўяўленьне пра БНФ. У складзе нашае партыі больш за ўсё інжынераў – любых нацыянальнасьцяў. Таксама шмат дактароў, асабліва чамусьці траўматолягаў. У нашай партыі ясная праграма, скіраваная менавіта на тыя каштоўнасьці, пра якія Вы пішаце. Але цяперашняя Беларусь – ня тая, што была ў 1990 годзе. Яна пасталела (нягледзячы на Лукашэнку). Ёсьць групы, для якіх важныя сацыяльныя гарантыі, а ёсьць дробныя прадпрымальнікі – гаспадары свайго лёсу. Іхныя інтарэсы аб'ектыўна адлюстроўваюць розныя партыі.

**– Як на сёньняшні дзень можна вызначыць Вашыя дачыненьні й адносіны з Зянонам Пазьняком? Не лічыце Вы (БНФ «Адраджэньне») «лішнімі» ў так званай «Аб'яднанай апазыцыі»? Правал выбарчай кампаніі й рэфэрэндуму відавочны(з боку апазыцыі). Сёняшнія «дзеяньні» Нямеччыны вельмі падобныя да дзеяньняў той жа толькі ў часы БНР. Пра Расею зусім маўчу... Спадзявацца застаецца толькі на «Акт аб дэмакратыі ЗША»? Ці не? Які «Варыянт Ікс»? Ці ёсьць ён?**

– Спадзявацца трэба не на Нямеччыну ці ЗША, не на хітрыя шахматы, змовы й варыянты ікс. Спадзявацца трэба на сваю працу зь людзьмі. Палітычная група становіцца палітычнаю сілаю, мае рэальны ўплыў на стан грамадзтва толькі тады, калі бальшыня ёй давярае й гатовая ісьці за ёй. Тады прыйдуць і разлажэньне й развал «вэртыкальнай» клікі, і вонкавая палітычная дапамога. Пра Пазьняка гл. вышэй.

**– У выпадку, калі Лукашэнка сыдзе і ў Беларусі будзе нармальная ўлада, чым вы будзеце займацца? У будучай Беларусі вы сябе бачыце палітыкам (ва ўрадзе, у парляманце, проста ў ПБНФ ці як прэзідэнт) альбо настаўнікам, дасьледчыкам-філёлагам?**

– Давядзецца нейкі час надалей займацца палітыкай, каб незалежніцкія беларускія сілы не былі зноў выпхнутыя на ўзбочыну кан'юнктурнікамі.

**– Почему, на ваш взгляд, так мало внимания международной общественности (США исключение) к диктаторскому режиму в Беларуси и что необходимо сделать, чтобы ситуация изменилась?**

– Трэба працаваць тут, у Беларусі. Размаўляць зь людзьмі, натхняць аднадумцаў, распаўсюджваць альтэрнатыўную інфармацыю, арганізоўваць людзей на месцах, ладзіць акцыі лякальнага пратэсту супраць парушэньня штодзённых правоў. Калі маеце матэрыяльныя рэсурсы – выкарыстоўвайце іх частку для палітычнае працы. Іншаземцы дапамогуць толькі таму, хто дапаможа сабе сам.

**– Какие формы гражданского протеста сегодня наиболее эффективны в борьбе с диктатурой?**

– Вельмі добра, калі людзі аб'ядноўваюцца для абароны канкрэтных правоў (скажам, настаўнікі супраць кантрактаў). Што ж да выбараў – я б вітаў, каб людзі масава пайшлі запісвацца ў назіральнікі. На жаль, пакуль маем сытуацыю кухоннага пратэсту.

**– Вінцук Рыгоравіч, што Вы думаеце пра Акт аб дэмакратыі, ці не пацерпіць народ больш чым улада?**

– Акт скіраваны перадусім асабіста супраць Лукашэнкі й ягоных найбліжэйшых. Эканамічных санкцыяў Беларусі ў сэнсе блякады там не прадугледжана. Яны ня будуць даваць лукашэнкаўскай Беларусі сваіх дзяржаўных грошай, але ж і дагэтуль асабліва не давалі.

**– Як вы ставіцеся да выказваньняў кшталту: «на рэферэндуме, з дапамогай фальсіфікацый Лукашэнка пераможа, а вось на выбарах, калі ў яго будзе моцны супернік...»? Ці ня ёсць гэта заўчаснай капітуляцыяй? Ці варта наогул з такім настроем удзельнічаць у палітычных кампаніях? 2.Лукашэнка праводзе рэферэндум не дзеля таго, каб у 2006 г. правесці сумленныя выбары.Ці варта апазіцыі ўдзельнічаць у тых выбарах? Бо калі апазіцыя не здолее давесці да людзей што Лукашенка іх падманвае пад час гэтай кампаніі, зрабіць тое ў 2006 г., калі будуць па выніках рэферэндуму ўнесены змены ў канстытуцыю, будзе шмат цяжэй, тым больш што сваім удзелам у выбарах апазіцыя засведчыць рацыю Лукашэнкі на рэферэндуме.**

– Гэтыя выказваньні – не пра народ, а пра вэртыкаль. Яна цяпер пабаіцца ня выканаць загад, бо ён яшчэ два гады над ёю будзе. У шостым годзе ўсё будзе залежаць ад моцы дэмакратычных незалежніцкіх сілаў.

Міжнароднага прызнаньня ані выбараў, ані рэфэрэндуму ня будзе. Незалежна ад нашага ўдзелу/ няўдзелу. А значыць, пры іншых роўных умовах трэба ўдзельнічаць. Я падчас збору подпісаў па сотні кватэраў штодня абыходзіў, цяпер з тысячамі людзей у пікетах размаўляю – і так кожны! Гэта вялікая ін'екцыя праўды й аптымізму ў зьняверанае беларускае грамадзтва.

**– Вядома, што за апошні месяц вы сустрэліся з тысячамі сваіх выбарнікаў. Якія настроі ў грамадзтве? Якія стэрэатыпы разбурыліся ў вас асабіста?**

– Бальшыня людзей адкрыта кажа пра зьмены. Многія не баючыся давалі пашпартныя зьвесткі для подпісу, але пануе пэсымізм. Людзі ня вераць, што іхныя галасы будуць палічаныя, і што воля народу можа нешта памяняць у нашай краіне. Гэта самае цяжкое. Беларуская мова не зьяўляецца ніякай перашкодай для камунікаваньня і паразуменьня (хаця я і ня меў такіх страхаў). І яшчэ: ідзем мы па новым доме, зьбіраем подпісы ў кожнай кватэры, вынік 100%. Жывуць акуратныя, гаспадарлівыя, цьвярозыя людзі. Маюць прозьвішчы накшталт Іваноў, Сьмірноў. Пытаемся: хто такія? Аказваецца, дом міністэрства абароны. Я вельмі рады, што наша беларуская армія ўсьведамляе неабходнасьць пераменаў і ня верыць у прапагандысцкія страшылкі пра БНФ.

**– Ці можа існаваць нацыя бяз мовы? Калі не, чаму ў лёзунгах «Аб'яднанай апазыцыі» няма і знаку на гэты конт? Адказ Статкевіча (...маўляў, спачатку сацыяльныя праблемы вырашым, а ўжо потым мова... ) сьмешны! Бяз мовы і культуры ня будзе нацыі. А калі няма нацыі, навошта тыя выбары? Для каго? Вам не сорамна працаваць з такімі людзьмі?**

– Пра ролю мовы і прыярытэт мовы і эканомікі гл. вышэй. Я ўжо адказаў на гэтае пытаньне. Усе дэмакратычныя сілы згодныя з тым, што беларуская мова нахабна ўціскаецца, і гэта ёсьць праваканцыяй цяперашняй улады моўнаэтнічнага канфлікту. Каб не было гэтай згоды, мы б не працавалі зь іншымі.

**– Ці ня думаеце вы, што, акрамя Лукашэнкі, у апазіцыі ёсьць больш важныя праблемы, напрыклад, Чарнобыль ды экалогія, якія можна і трэба вырашаць у тым ліку і ў супрацоўніцтве з уладамі?**

– Бяда ў тым, што Лукашэнка прыняў палітычнае рашэньне, якім зьнішчыў усё зробленае партыяй БНФ у Чарнобыльскай праблеме дагэтуль. Улада вырашыла, што людзі надалей могуць жыць на забруджаных тэрыторыях, вырабляць там і спажываць харчовую прадукцыю. Перасяленьне было спыненае. Там зноў засейваюцца палі і пасьвяцца каровы. А людзі мруць ад хваробаў шчытападобнай залозы. Не ўяўляю сабе кампрамісу паміж двума супрацьлеглымі падыходамі. Мы хочам, каб людзі жылі, а не паміралі.

**– Пишет Вам русскоязычный читель Беларуси. Как я буду жить? Или мне уезжать в Россию? И самое главное, как будет жить частный бизнес? Только без «умных» фраз: мы за частный бизнес и, плиз, поконкретнее, и мой вам совет: мова развивается при условии, что люди сыты, одеты и не о чем не заботятся, и это относится к культуре. Фраза – сперва культура и единение – к бизнесу и благосостоянию не имеет никакого отношения. Это Вам совет.**

– Вы маеце на ўвазе – як будзеце жыць пры Лукашэнку? Дрэнна будзеце жыць. Але ў Расеі неўзабаве будзе тое самае: Пуцін крок за крокам увасабляе на расейскіх прасторах тое, што спраўдзілася ў Беларусі. Нам трэба пазбаўляцца самаўладзтва, вызваляць эканамічную ініцыятыву людзей, зьніжаць (разы ў два) і спрашчаць падаткі, гранічна спрасьціць рэгістрацыю новых прадпрыемстваў і прыватных прадпрымальнікаў (паступова перайшоўшы да рэгістрацыйнага прынцыпу замест дазваляльнага).

Байкі пра страшных нацыяналістаў з БНФ, якія хочуць выгнаць зь Беларусі расейскамоўных, пашырае лукашэнкаўская прапаганда, якой Вы, спадзяюся, ня верыце. У нас зусім іншая праблема: беларускія школы заганяюць у падпольле, з тэлебачаньня беларускую мову выгналі цалкам. Ня згодны з Вамі, што мова й культура (і мараль?!) – пасьля ўсяго. Ня будзе дзяржавы, ня будзе народу, калі ня будзе самасьвядомасьці. І без агульнай культуры й маральнасьці не бывае культуры працы ды сумленнага бізнэсу.

**– «Неаднаразова падвяргаўся затрыманьням і арыштам за ўдзел у масавых акцыях апазыцыі» – вось гэта ўжо чыстая лухта! Якраз гэты хітры тып заўжды зьнікае з месцаў мітынгаў, але падстаўляе пад «суткі» сваіх памагатых – так званае «мітынговае мяса».**

– Першы раз я сядзеў у каталажцы ў чэрвені 1984 году. За першую ў паваеннай Беларусі публічную палітычную акцыю пратэсту (калі зьнішчалі будынак Першага беларускага тэатру на плошчы Волі). Пасьля я бываў і Дабрамысьленскім завулку і на Акрэсьціна. І два гады пад крымінальнай справай. Але я ня лічу, што трэба ганарыцца і калякцыянаваць адсідкі.

**– Расскажите, на какие средства вы и ваша семья живете лично, на какие ездите за рубеж, на какие существует ваша партия?**

– Я працую намесьнікам галоўнага рэдактара часопіса «Спадчына». Жонка – пэдагогам у сыстэме пазашкольнай адукацыі. За мяжу нас запрашаюць грамадзкія арганізацыі або ўрады іншых краінаў, якія аплочваюць дарогу. Наша партыя існуе за кошт ахвярнасьці й ініцыятывы яе шараговых сяброў.

**– Ці пойдуць сябры кіраўніцтва БНФ у адстаўку па выніках галасаваньня 17 кастрычніка?**

– Як вырашыць зьезд нашай партыі.

**– Сп. Вячорка, якія свае – як кіраўніка партыі – памылкі вы лічыце найбольшымі?**

– Першае, што недастаткова падкрэсьлілі абнаўленьне партыі БНФ пасьля 1999 году і цягнулі на сабе груз старых стэрэатыпаў. Другое, запозна пачалі сур'ёзна займацца эканомікай. Фактычна, пасьля абнаўленьня фронту толькі з 2002 году пачалі праводзіць круглыя сталы і канфэрэнцыі па эканоміцы. Трэцяе, не настаялі як мага ранейшым выстаўленьні адзінага кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах.

**– Сп. Вячорка, якія плюсы вы бачыце ў меркаваным уваходжаньні Беларусі ў ЭЗ – акрамя скасаваньня візавых бар'ераў для нашых грамадзянаў, вядома. Ці не страшыць Вас непазьбежнасьць частковай страты сувэрэнітэту, асабліва з улікам цяперашніх «інтэграцыйных» тэндэнцыяў у Эўропе?**

– Эўрапейскі Зьвяз – сыстэма ўраўнаваньня інтарэсаў вельмі многіх краінаў. І ніводная зь іх можа панаваць так, як панавала над Беларусьсю царская імпэрыя альбо Савецкі Саюз. Эўрапейскі Зьвяз – гэта гарантыя зьберажэньня нашай незалежнасьці і нацыянальнай ідэнтычнасьці ў складанай геапалітычнай сытуацыі, у якой мы знаходзімся.

Усім вялікі дзякуй і больш аптымізму! Жыве Беларусь!

**Сяргей НАВУМЧЫК і**
**Ўладзімер КАТКОЎСКІ**
**Радыё Свабода**

*Друкуецца ў значным скароце. Поўны тэкст на сайцеРС*

**Адам МІЦКЕВІЧ**

# Дзяды



Адным з самых значных твораў паэта па праву лічыцца драматычная паэма «Дзяды», у аснове якой – старажытны народны абрад памінання продкаў. У творы рэалістычныя, узятыя з жыцця сцэны пераплятаюцца з фантастычнымі, што з'яўлялася асаблівасцю тагачаснай рамантычнай літаратуры. У паэме намалявана праўдзівая карціна жыцця беларускага народа першай паловы XIX стагоддзя. У ёй пададзены многія канкрэтныя падзеі, непасрэдным удзельнікам якіх быў сам аўтар.

IV частка «Дзядоў» – своеасаблівы рэквіем каханню паэта да беларускай шляхцянкі Марылі Верашчакі, якая жыла ў маёнтку Туганавічы (цяперашні Баранавіцкі раён). Даведаўшыся, што яго каханая нечакана выйшла замуж за графа Ваўжынца Путкамера з недалёкага ад Туганавічаў маёнтка, малады Адам Міцкевіч быў проста ашаломлены, ён даходзіў да мяжы вар'яцтва. Гэты стан сваёй душы паэт здолеў з геніяльнай дакладнасцю перадаць у сцэне сустрэчы пустэльніка Густава (праобраз самога аўтара) з уніяцкім святаром, былым настаўнікам навагрудскай школы. **Пераклаў з польскай мовы Кастусь ЦВІРКА.**

У доме святара. – Стол накрыты, толькі што закончылася вячэра. Святар. – Пустэльнік. – Дзеці. – На стале дзве свечкі. Лямпа перад абразом Божай Маці. На стале гадзіннік з боем.

*Я зняў усе пахавальныя саваны, што ляжалі ў дамавінах, заглушыў велічную суцяшальнасць усёдаравальных прамоў, каб толькі зноў і зноў паўтараць сабе: «Ах, усё гэта было не так! Тысячы радасцяў навекі скінуты ў бездань, і вось (ты) стаіш адзінока тут і ўспамінаеш іх!». Ненасытны! Ненасытны! Не чытай адразу ўсю разарваную кнігу мінулага... Ці не досыць жалю?*

*Жан Поль (ням.)*

**Святар.**
Дзіця маё, паслухай слова суцяшэння:
Твой боль, які цяпер табе так цяжка ўняць,
Залічыць Бог, калі пачне грэхападзенні
Людскія на тым свеце рахаваць!

**Пустэльнік.**
Ды дзе мае грахі – хачу я папытацца?
Што? За каханне мне цярпець ва ўсе часы?
Ды сам жа Бог, Тварэц зямной красы,
Агонь высокі запаліў – Яго тут праца!
Ён шчырыя душы дзве любасці вузлом
Звязаў навек адну з другою!
Яшчэ тады, калі бясхмарнай мы парою
Не знялі бед пад светлых сноў крылом,
Звязаў адну з другою.
Цяпер, калі чыясь нас разлучыла злосць,
Паслабнуў вузел той, ды ён трывае!
Хоць адчужэння цень між намі й ёсць,
Хоць гай сустрэч нас больш не прычакае,
Ды нашым душам у адным круціцца коле,
І ўжо не разлучыцца ім ніколі.

**Святар.**
Калі ўжо Бог злучыў, людзям не разлучыць!
І ў вас закончыцца ўсё добра, можа быць.

**Пустэльнік.**
Як цела вутлае змяце гадоў завея,
Хіба што там сальецца мо душа з душою.
Бо тут для нас дваіх памерла ўжо надзея,
Навек расстаўся тут я з любаю сваёю.
*(Пасля паўзы.)*
Я помню да драбніц той горкі міг расстання.
Была ўжо восень золкая. Цямнела. З рання
Ад'ехаць меўся я. Пайшоў у сад, блукаю
У роздуме цяжкім, з малітваю шукаю
Такой брані, каб маё сэрца, ад прыроды
Залішне мяккае, схаваць здалеў заўсёды
За ёю і каб тут, між дрэў знаёмых саду,
Я вытрываў яе апошні стрэл пагляду!
Хадзіў каля кустоў, куды глядзелі вочы.
Дасюль не бачыў я такой чароўнай ночы!
Прайшоў нядаўна дождж, і ў ночы той святлістай
Уся зямля паблісквала расой краплістай.
За садам дол услаў, бы снег, туман бялявы.
Там – выйшлі ў неба знекуль сініх хмараў лавы,
З другога боку – месяц выплыў з-пад аблокаў,
Танулі зоры ў цёмнай сінізне глыбокай.
А ўверсе ззяла зорка ўсходняя малая
(З той ночы мне й цяпер яна заўсёды ззяе).
Пасля гляджу... Там, за альтанкаю, пры вязу –
Яна! Я пазнаю яе адразу!
Між дрэў, бы статуя, яна стаяла ў белым...
Пабегла... Бы зефір махнуў крылом нясмелым...
І во мы побач... Вочы долу апусціла.
І не зірнула на мяне!.. Нібы застыла.
Твар – бледны, чырвані – ні следу.
Я нахіліўся, заглядаю збоку.
Дрыготкую слязінку бачу ў воку!
Кажу: «Я заўтра еду...»
Яна ў адказ мне ціха так: «Бывай здаровы...
Забудзь мяне...» І праглынула словы.
Забыць? Лягчэй сказаць! Ты загадай во ценю
Свайму: няхай наўслед твайму хаценню
Забудзе бегаць за табой. Ці ж збыцца цуду?
Забудзь!
Лягчэй сказаць!
*(Спявае.)*
Плач ні плач; Бог даў дарогі:
Мне – адну, табе – другую,
Буду век цябе я...
*(Абрывае спеў.)*
помніць,
*(Ківае галавой, спявае.)*
Ды тваёй быць не магу я!
Што? Толькі помніць?.. «Заўтра ж
ад'язджаю!»
Хапіў яе за рукі, абдымаю.
*(Спявае.)*
Гожая – нібы анёлак з раю,
Параўнаць яе хачу я з песняй.
Позірк чысты – нібы сонца маю,
Што ў вадзе адлюстравана весняй.
Пацалунак – бы нектар нябесны,
Бы з агнём агонь жывы схапіўся,
Бы дзвюх лютняў зладны спеў сумесны
У адзіны гімн чароўны зліўся.
Сэрца з сэрцам лучацца, палаюць
І яднаецца душа з душою.
Неба і зямля на нас шыбаюць
Серабрыстай хваляю марскою.
Не, ойча, табе не зразумець майго адказу:
Ты ж любых вуснаў дзіўны хмель не піў ні разу.
Хай блюзніць часам люд, кпіць моладзь, як заўсёды,
Ды сэрца ўсё ж тваё маўчыць на кліч прыроды.
О любая! Быў у такіх я высях,
Як нашы вусны перша раз зліліся!
*(Спявае.)*
Пацалунак – бы нектар нябесны,
Бы з агнём агонь жывы схапіўся,
Бы дзвюх лютняў зладны спеў сумесны
У адзіны гімн чароўны зліўся.
*(Хапае дзіця, хоча пацалаваць; яно вырываецца.)*

**Святар.**
Ён – чалавек, як ты! Чаго ж яго баяцца?

**Пустэльнік.**
Ах, з нешчаслівымі ніхто не хоча знацца!
Ад іх, бы ад страшыдлаў з пекла, ўсё ўцякае.
Ах, уцякла й яна, бы мроя тая!
«Бывай здаровы!..» І дзесь за бажніцай
Астатні раз мільгнула бліскавіцай.
*(Да дзяцей.)*
Чаму ўцякла? Мо недарэчным словам
Яе ўгнявіў? Ці жэстам выпадковым?
Хачу прыпомніць...
*(Стараецца ўспомніць.)*
Галавой кручу я...
Не, не! Бы на далоні, бачу стрэчу тую.
Ні слова не забыў я з памятнай размовы.
Я ёй сказаў тады ўсяго два словы.
*(З жалем.)*
Ойча, паўтару іх – слова ў слова:
«Бывай здарова!»
«Бывай здаровы! – І галінку мне зрывае. –
То ўсё, што нас з табой во тут
*(Паказвае на зямлю.)*
яднае!
Бывай здаровы!» – і дзесь за бажніцай
Астатні раз мільгнула бліскавіцай!

**Святар.**
Мой юны друг, я зразумеў твае ўсе болі.
Ды ведай: многія яшчэ гаруюць болей.
Я сам на пахаваннях слёзы ліў ракою:
Правёў я матку й бацьку к вечнаму спакою.
І дзетачак дваіх не ўбачу больш ніколі,
І жонка ўжо, сяброўка шчасця і нядолі,
Якую так кахаў, пад крыжам спачывае!..
Ды што тут зробіш? Бог дае, Бог забірае!
Хай дзеецца ж усё паводле Божай волі!

# Паэма Адама Міцкевіча «Дзяды»

**Кастусь ЦВІРКА**

Дзяды – старадаўні беларускі абрад памінання продкаў, якіх так у нас і называюць – дзяды. І слова гэта чыста беларускае. Прынамсі, у польскай мове яго няма. Адам Міцкевіч чуў яго на сваёй радзіме – Беларусі, а вузей – на роднай Навагрудчыне. І ўзяў яго жыўцом з беларускай мовы, паставіўшы ў загаловак самага значнага побач з «Панам Тадэвушам» свайго твора.

Паэт нават захаваў у гэтым слове ўласцівае беларускай мове дзеканне – адну з яе характэрных рысаў (згадаем радкі Пімена Панчанкі пра свой зварот з вайны на Беларусь, дзе ён упершыню за многія гады зноў пачуў родную мову: «І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае «дзе», і густое «чаго»). Тут жа, на сваёй Навагрудчыне, назіраў Адам Міцкевіч і захаваныя з язычніцкіх часоў велічна-ўрачыстыя рытуалы-абходзіны свята Дзяды. «Узвышаная мэта абходзін, самотнае месца, начная пара, фантастычнасць рытуалу калісьці моцна хвалявалі маё ўяўленне: я слухаў казкі, апавяданні і песні пра нябожчыкаў, якія вярталіся з таго свету з просьбамі і перасцярогамі; і ва ўсіх гэтых незвычайных выдумках можна было бачыць пэўныя маральныя пачуванні і ідэі, вобразна выказаныя простым людам».

Незвычайная таямнічасць рытуалу Дзядоў, яго высокая маральнасць, звязаная з глыбокай пашанай беларусамі сваіх продкаў, вельмі прываблівалі паэта, і ён узяў гэты абрад у аснову паэмы «Дзяды». Паэма пісалася, як прызнаваўся сам паэт, «у духу» абходзін Дзядоў, пры гэтым ён дадаваў, што «абрадавыя песні і заклінанні ў сваёй большасці пададзены дакладна, а часам і даслоўна ўзяты з народнай паэзіі» – вядома ж, беларускай.

Назва «Дзяды» аб'яднала тры асобныя паэтычныя рэчы Адама Міцкевіча: так званыя «Віленска-ковенскія Дзяды», «Дрэздэнскія Дзяды» і «Урывак часткі III Дзядоў». У першы ўвайшлі II і IV часткі, у другі – III частка «Дзядоў». Асобна выдзелены і «Урывак часткі III Дзядоў». У чытача, пэўна, узнікне законнае пытанне: чаму такі парадак, ці хутчэй «беспарадак» у нумарацыі частак?

Тлумачыцца гэта тым, што ў час працы над «Дзядамі» аўтару давялося змяніць першапачатковую задуму, згодна якой твор павінен быў складацца з чатырох частак. Паэт, як мяркуюць, і напісаў усе гэтыя часткі, іх ужо чакалі выдаўцы, каб уключыць у другі том яго «Паэзіі», які рыхтаваў да друку ў Вільні Міцкевічаў сябар Ян Чачот. Але ў друк Адам Міцкевіч аддаў толькі дзве з іх – II і IV. Што ж да I і III, то ён не палічыў іх вартымі друкавання. Як сведчыць у пісьме сыну паэта ад 1890 года знаёмая Адама Міцкевіча Караліна Паўлава (Яніш), на яе пытанне, чаму ён апублікаваў толькі дзве часткі «Дзядоў», аўтар адказаў: «Таму, што, перачытаўшы іх, я знайшоў іх такімі нікчэмнымі, што кінуў у агонь». Каб звязаць дзве розныя часткі паэмы ў адно цэлае, аўтар дапісаў пры публікацыі да іх адмысловы пралог «Здань», які павінен быў дапамагчы, як пісаў ён Яну Чачоту, «зразумець астатняе». У пралогу ідзе гаворка пра маладога чалавека, які праз нешчасліваe каханне наклаў на сябе рукі і якога незагойны боль ад таго кахання падымае нават з магілы. Гэты малады чалавек са смяртэльна параненым сэрцам, праобраз самога паэта, адрынутага яго каханай Марыляй Верашчака, і ёсць тым стрыжнем, што аб'ядноўвае абедзве часткі «Віленска-ковенскіх Дзядоў» ды, зрэшты, і «Дрэздэнскія Дзяды», і недраматычны «Урывак часткі III Дзядоў».

У асобных выданнях «Дзядоў» публікуецца і знойдзены ў паперах паэта ўрывак часткі I – «Дзяды. Відовішча». Думаецца, публікаваць яго разам з адабранымі самім аўтарам часткамі паэмы не мае патрэбы: па-першае, сам аўтар не ўключаў гэты, магчыма, выпадкова ўцалелы ўрывак у прыжыццёвыя выданні «Дзядоў», а па-другое, ён зусім не ўпісваецца ў выструненую самім паэтам канву твора. Вытыркаецца з яго, як нешта неарганічнае.

«Віленска-ковенскія Дзяды» пісаліся ў 1820–1822 гадах, зусім яшчэ маладым паэтам. Было гэта пасля заканчэння Віленскага універсітэта, калі паэт настаўнічаў у Коўна.

Пачынаецца паэма з паказу абраду Дзядоў. Абрад адбываецца ў старой капліцы. Распарадчык абраду гусляр, ці чараўнік, сялянам, што прыйшлі сустрэцца з дзядамі, загадвае наглуха зачыніць капліцу, патушыць усе свечкі і лямпы і нават завесіць вокны ад месяца. Таямнічасць рытуалу падкрэслівае і рэфрэн, які спяваецца хорам сялян:

*Глуха ўсюды, ноч, бязлюддзе.*
*Што тут будзе ўжо, што будзе?*

У змрочнай глухой цішыні і сустракаюць язычніцкія вернікі душы памерлых. Сам рытуал народнага абраду дзядоў быў натуральнай, неявыдуманай формай, якая дазваляла паэту выдатна раскрыць сваю эпоху з усімі яе супярэчнасцямі, выказаць свае адносіны да праяў грамадскага жыцця. На заклінанне гусляра злятаюцца ў капліцу духі нядаўна памерлых людзей, якія адразу вяртаюць чытача ў жывую рэчаіснасць. Першымі прылята-

# Паэма Адама Міцкевіча «Дзяды»

юць духі дваіх дзяцей, якія просяць не прысмакаў з багатага рытуальнага стала, а наадварот – чаго-небудзь горкага, хаця б некалькі зярнятак гарчыцы. Бо прысмакаў у бесклапотным існаванні было ім дастаткова, яны не ведалі ніякай горычы. Тут паэт праводзіць думку аб тым, што чалавек павінен спазнаць на зямлі не толькі радасць існавання, але і выпіць сваю долю той горычы, што дасталася чалавецтву.

Пакутуюць у надзем'і і духі тых, хто пры жыцці не выканаў свайго зямнога прызначэння. Так, дух дзяўчыны, якая пры жыцці не здолела анікога пакахаць, цяпер пакутліва шукае каханка, палаючы нязведаным агнём. Калі разам з аўтарам мы можам толькі пашкадаваць гэтых духаў дзяцей і дзяўчыны, то зусім іншыя пачуцці выклікае з'яўленне духа былога жорсткага пана-прыгонніка, якога дзяўбуць драпежныя птушкі – ператвораныя ў іх замучаныя гэтым панам сяляне. Пан, які пры жыцці цешыўся ў празмернай раскошы і багацці, цяпер пакутуе ад голаду, якога не спазнаў у жыцці, і просіць даць яму «хоць два зернейкі пшаніцы». Але былыя яго падданыя нічога не даюць яму спажыць.

Тыя штучныя перашкоды, што ставіў жорсткі грамадскі лад на шляху чалавека ў рэалізацыі яго магчымасцяў і высокіх памкненняў, стваралі часта даволі востры канфлікт паміж грамадствам і асобай.

Якраз такі канфлікт лёг у аснову «Дзядоў» Адама Міцкевіча. Цэнтральнай бунтарнай асобай у паэме выступае вобраз Густава-Конрада, «спісанага», як відаць, з самога аўтара.

Мы бачым яго ўжо ў пралогу «Здань» – з яго незагойнай ранай у сэрцы. Ён з'яўляецца на закліананне гусляра ў канцы II часткі паэмы ў выглядзе той жа здані, што вылазіць у капліцу з раптоўна праваленай падлогі. Толькі ў адрозненне ад іншых духаў ён стаў пасярод капліцы і, як яго ні прасілі, ні грэзілі пракляццямі, не прамовіў ні слова – маўчаў, «быццам камень на магіле», выклікаючы ва ўсіх страх і замяшанне сваёй таямнічасцю.

Затое ў наступнай, IV частцы, у сцэне сустрэчы з ксяндзом у ягоным жа доме і сям'ёй, малады няшчасны чалавек поўнасцю раскрывае ўсе таямніцы свайго акрываўленага сэрца. Даследчыкі ў адзін голас сыходзяцца на тым, што ніхто з паэтаў свету не расказваў з такім агнём і сілай, з такой шчырасцю і безагляднай адкрытасцю пра сваё каханне, як зрабіў гэта Адам Міцкевіч у маналогах Густава. Гэта была сапраўдная споведзь смяртэльна параненага сэрца.

Маналогі Густава – гэта гнеўнае абвінавачванне таго правапарадку, ахвярай якога ён стаў. Пяро паэта набывае сатырычныя, выкрывальныя ноты, калі ён згадвае носьбітаў гэтага правапарадку, што прыстасаваліся да яго. Паказальна ў гэтым сэнсе спрэчка Густава з ксяндзом наконт народнай абраднасці. Часам паэт выступае тут як сапраўдны беларускі «нацыяналіст».

Праз дзесяць гадоў пасля напісання твора новыя падзеі, у вадаварот якіх ён быў укручаны сам, прымусілі Адама Міцкевіча, а разам з ім і яго героя яшчэ раз выступіць на сцэну.

Акурат у год выхаду другога томіка «Паэзіі» Адама Міцкевіча з «Дзядамі» (1823) царскім уладам удалося выкрыць існаванне тайных згуртаванняў беларускай моладзі Таварыства філаматаў і Таварыства філарэтаў. Было арыштавана каля ста іх удзельнікаў. Пачаўся вялікі і гучны судовы працэс, які цягнуўся амаль да канца 1824 года. Згодна з вынесеным прысудам, дваццаць самых «небяспечных» бунтароў гвалтоўна выслалі з Беларусі ў глыбіню Расіі без права вяртання на радзіму. Сярод гэтых дваццаці быў і Адам Міцкевіч, якога разам з Францішкам Малеўскім і Юзафам Яжоўскім накіравалі ў Пецярбург, у веданне Міністэрства асветы Расіі з мэтай выкарыстання іх на ніве адукацыі. Найбольшае пакаранне выпала на долю блізкіх Міцкевічавых сяброў Тамаша Зана, Яна Чачота і Адама Сузіна, якіх выслалі аж на Урал з папярэдняй адсідкай у розных цытадэлях.

У 1829 годзе Адаму Міцкевічу ўдалося вырвацца за мяжу. Гэта быў якраз час новага ўздыму грамадска-палітычнага руху ў Еўропе (выступленне французаў супроць Бурбонскай манархіі, паўстанне ў жніўні 1830 года ў Бруселі, вынікам чаго сталася абвяшчэнне незалежнасці Бельгіі і інш.).

Самай важнай падзеяй для Адама Міцкевіча з'явілася паўстанне ў Варшаве 29 лістапада 1830 года супроць царскага панавання. Хоць асабіста паэт прыняць удзел у паўстанні не змог, хоць ён не ва ўсім падзяляў мэты паўстанцаў і не верыў у поспех выступлення, тым не менш паэт усёй душой быў на баку паўстанцаў. Іх гераічнай барацьбе з царскім дэспатызмам у 1830–1831 гадах паэт прысвяціў некалькі паэтычных твораў – «Начлег», «Смерць палкоўніка» (пра камандзіра вялікага паўстанцкага атрада беларускую паэтэсу Эмілю Плятэр), «Рэдут Ардона» і інш. Трагічны канец Лістападаўскага паўстання прымусіў паэта сесці таксама за напісанне новых «Дзядоў» – так званых «Дрэздэнскіх Дзядоў», бо ствараў іх у Дрэздэне, дзе ён апынуўся разам з ацалелымі паўстанцамі як эмігрант. Паэт вырашыў там ажыццявіць сваю ранейшую задуму – расказаць пра філаматаў і філарэтаў, якія першыя ўзнялі сцяг барацьбы з царызмам.

У «Дрэздэнскіх Дзядах» дзейнічаюць рэальныя, не выдуманыя героі, нават у бальшыні пад сваімі ж імёнамі. Гэта – завадатар беларускай моладзі, кіраўнік Таварыства філарэтаў паэт Тамаш Зан, філаматы і філарэты Ігнат Дамейка (будучы вялікі вучоны-асветнік, рэктар універсітэта ў Сант-Яга, нацыянальны герой Чылі), Юзаф Кавалеўскі (пазнейшы заснавальнік мангалазнаўства ў Расіі, рэктар Казанскага універсітэта), Фелікс Кулакоўскі, Антоні Фрээнд (загінуў у паўстанні ў 1831 годзе), Адам Сузін (паэт, быў сасланы з Янам Чачотам і Тамашом Занам на Урал), Ян Сабалеўскі, Цыпрыян Янчэўскі (настаўнік у Крожах, арганізатар таварыства «Чорныя браты», быў сасланы спачатку ў Бабруйскую крэпасць, потым у салдаты), а таксама Адольф Янушкевіч (пазней – сябар па ссылцы рускага паэта Аляксандра Адоеўскага, які прысвяціў яму два вершы), Каласанты Львовіч (ксёндз-піяр, настаўнік матэматыкі і завуч Полацкага піярскага вучылішча), Аляксандр Бястужаў (дзекабрыст), сенатар Мікалай Навасільцаў і інш. Тром з гэтых персанажаў – Яну Сабалеўскаму, Цыпрыяну Дашкевічу і Феліксу Кулакоўскаму (якія ў гэты час былі ўжо нежывыя) і прысвяціў сваю паэму Адам Міцкевіч.

Бальшыня ж названых герояў паэмы ў час яе напісання яшчэ жыла і была або ў выгнанні, або ў царскіх турмах, што, магчыма, стрымлівала паэта ва ўсю моц паказваць іх як змагароў супроць царскага самаўладства, каб не наклікаць на іх новыя беды. Пра рэальнасць апісаных падзей аўтар сам кажа ў прадмове да III часткі «Дзядоў».

У «Дрэздэнскіх Дзядах» зноў дзейнічае той жа галоўны герой паэмы – правобраз самога паэта. Толькі тут ён ужо не Густаў, а Конрад. Гэта як бы другі чалавек. Уваскрэслы да жыцця. Яго сардэчную рану ад нешчаслівага кахання «залечваюць» цяпер высокія патрыятычныя пачуцці, небывалы пад'ём духу, выкліканы змаганнем за Бацькаўшчыну. Асабістыя перажыванні закаханага юнака адступаюць тут на задні план перад усенароднай бядой, перад неабходнасцю вызваляць радзіму ад тупой і нахабнай навалачы.

Свае мары і імкненні выразна выказвае Конрад у «Імправізацыі». Выкрываючы сучасны яму грамадскі лад, які губіць усё здаровае, прагрэсіўнае, Конрад бачыць шлях пераўтварэння грамадства не ў розуме, не ў высновах «мудрацоў», а ў моцы духу, у высокіх пачуццях, якія ставілі рамантыкі на першае месца ва ўсіх пачыннях. Свой позірк ён скіроўвае да Бога, просіць даць яму хоць частку ягонай моцы – ён сілай свайго пачуцця і тытанічнага таленту здолеў бы падняць народы на ажыццяўленне самых светлых ідэалаў чалавецтва. Не пачуўшы ад Бога адказу, ён смела кідае папрок і яму.

Як працілегласць бунтару Конраду Адам Міцкевіч выводзіць у паэме вобраз ксяндза Пятра з яго безадмоўнай адданасцю Богу. У шчырым служэнні Богу ксёндз Пётр бачыць выратаванне не толькі самога сябе, але і радзімы, свайго народа. У служэнні Богу ён чэрпае і сілы ў барацьбе са злом. У гэтым сэнсе ксёндз Пётр саюзнік бунтару-богаборцу Конраду.

Але асабліва вялікую надзею ў вызваленні радзімы ўскладае Конрад на тых, хто смела выступае на змаганне з тыраніяй, хто гатоў ахвяраваць нават уласным жыццём за высокія ідэалы дабра і справядлівасці. Таму такое важнае месца адводзіць Адам Міцкевіч у сваёй паэме вобразам філаматаў і філарэтаў, усіх, хто ў сапраўднасці нешта рабіў для Айчыны.

Маладыя патрыёты надзелены паэтам самымі высокімі маральнымі якасцямі. У гэтай іх маральнасці ён бачыць залог перамогі над маральна разбэшчанымі паслугачамі рэжыму. Да прамых царскіх служак, такіх як Навасільцаў з яго кампаніяй, паэт далучае і польскую арыстакратыю, якая імкнецца прыстасавацца да любой улады, для якой інтарэсы радзімы вельмі далёкія – галоўнае, ёй трэба задаволіць толькі свае дробязныя патрэбы. Вельмі выразна раскрываецца прадажніцтва арыстакратыі ў сцэне VII – «Варшаўскі салон», дзе сабраліся два процілеглыя лагеры – польская арыстакратыя і патрыятычная моладзь.

Завяршаецца частка III «Дзядоў» сцэнай IX – «Ноч дзядоў», дзе жанчына ў жалобе прыйшла сустрэць дух свайго каханага. Але на заклінанне гусляра ён чамусьці доўга не з'яўляўся. Гусляр тлумачыў гэта тым, што яе каханы – жывы. Праўда, на Дзяды, бывае, прылятаюць і душы жывых людзей, тут трэба толькі назваць імя. Але не памагло і гэта, як ні стараўся ксёндз са сваімі заклінаннямі.

Гусляр і жанчына ў жалобе пакінулі ўжо сваю хованку, дзе можна было сустрэць духаў, як раптам гусляр угледзеў таго, каго чакала жанчына. Яго, Конрада, двайніка паэта, пасля ўсіх здзекаў і катаванняў «народа каты» вязуць далей ад радзімы, у бестэрміновую высылку.

Пякучым болем пранізаны тыя радкі паэмы, дзе Адам Міцкевіч паказвае зламаныя самаўладствам чалавечыя душы, рабскую пакорлівасць падданых цара і слуг гэтых жа падданых. Дастаткова згадаць тут смяртэльна параненага салдата, які згаджаецца страціць сваё знявечанае цела і маўчаць, каб толькі яго не ўбачыў цар і не сапсаваў свайго апетыту перад блізкім снеданнем. Альбо дзяншчыка заезджага афіцэра, таго, што замёрз, чакаючы свайго пана, але не асмеліўся хоць бы прыкрыцца ад холаду ягоным футрам, якое афіцэр загадаў пасцерагчы да яго прыходу.

Хаця Адам Міцкевіч планаваў працягваць працу над «Дзядамі», тым не менш усе скампанаваныя ім часткі паэмы, уключаючы «Урывак», папраўдзе ўспрымаюцца як цэласнае, шматпланавае палатно, звязанае адной галоўнай думкай, вобразам аднаго цэнтральнага героя і нават адной мастацкай формай: у паэме як бы дзейнічаюць выкліканыя гусляром душы жывых і памерлых зямных людзей.

Увесь твор напісаны ў свабоднай, раскаванай манеры. Сам змест ламаў усе ранейшыя каноны літаратурнага твора. «Віленска-ковенскія Дзяды» пісаліся яшчэ ў чыста рамантычным стылі, гэтага вымагала само рамантычнае каханне галоўнага героя з яго нязбытнымі пакутамі, якія шмат у чым нагадвалі пакуты гётэўскага маладога Вертэра. Калі ж жорсткая рэчаіснасць (з турэмнымі кратамі, з гвалтоўным выгнаннем галоўнага героя за межы радзімы, з крывавымі бітвамі Лістападаўскага паўстання) ацверазіла юныя рамантычныя галовы, Адам Міцкевіч пераходзіць да рэалістычнага паказу рэчаіснасці. Паэт сам прызнаваўся, што ён імкнуўся намаляваць праўдзівую карціну жыцця і барацьбы яшчэ і для таго, «каб захавалася ў памяці народа праўдзівая гісторыя Літвы за некалькі дзесяткаў гадоў».

На першым часе паэму «Дзяды», як і ўсю паэзію Адама Міцкевіча, зусім непрыхільна, нават варожа сустрэла варшаўская крытыка, якая строга сачыла за «чысцінёй» канонаў класіцызму ў літаратуры і не хацела разумець новую, рамантычную яе плынь. Як зазначае расійскі літаратуразнавец М. Жываў у сваёй кнізе «Адам Мицкевич», варшаўскія «літаратурныя рэакцыянеры распаўсюджвалі эпіграмы і пародыі на «Дзядоў» і гнюсна насміхаліся над «смаргонскім» ці «пінскім» паэтам, як называлі яны Міцкевіча за тое, што ён перанёс у польскую паэзію песні і мову беларускіх сялян Палесся».

Але сіла таленту паэта сама пераадолела ўсе штучныя перашкоды на шляху да чытача, які прыняў яе з усёй шчырасцю і прыхільнасцю. З цягам часу зразумела і перадавая польская і замежная крытыка, якога высокага палёту паэта нарадзіла ўскраінная мядзведжая «Літва». Выдатная французская пісьменніца Жорж Санд, з якой паэт падтрымліваў у эміграцыі сяброўскія адносіны, вышэй ставіла «Дзяды» за драматычныя творы Ё. В. Гётэ і Дж. Байрана. «Прапорцыя Міцкевіча мне ўяўляецца найлепшай, – пісала яна ў «Эцюдах пра фантастычную драму». – Ён не зліваае ідэю з рамай, як Гётэ ў «Фаусце», не аддзяляе раму ад ідэі, як Байран у «Манфрэдзе». Рэальнае жыццё для яго сама па сабе карціна ўражальная, ашаламляльная, страшная, а ідэя ў цэнтры. Свет фантастычны знаходзіцца не звонку, не зверху і не знізу, ён у глыбіні ўсяго, рухае ўсім, душа ўсякай рэальнасці, жыве ва ўсіх фактах рэальнасці».

Паэма Адама Міцкевіча «Дзяды» – гэта раскрытая да самай глыбіні, хвалюючая «гісторыя душы» рамантычнага бунтара Густава-Конрада, яго рашучае выступленне супроць антычалавечага правапарадку, мастацкі паказ выспявання ўсеагульнага пратэсту супроць зняволення расійскім царызмам свайго і іншых народаў, уздыму патрыятызму ў асяроддзі літоўскай, г. зн. беларускай моладзі, якая станавілася ўжо на шлях барацьбы за ўсталяванне на сваёй радзіме царства волі і справядлівасці. Адначасова «Дзяды» – жывы помнік адной з самых цікавых старонак гісторыі нашай Бацькаўшчыны.



# Рэлігійная палеміка з праваслаўем (1911)

*Некаторыя аспекты такой палемікі адлюстраваліся на старонках каталіцкага «Dwutygodnika dyecezalnego wilenskiego».*

Тады, у 1911 годзе, як затым і ўсю першую палову стагоддзя, і, нарэшце, фатальным чынам, у апошняе дзесяцігоддзе мінулага тысячагоддзя Вільня была горадам, інтэнцыі якога, разам з праблемамі ўсёй Літвы, польскі журналіст Аляксандр Яцкоўскі вызначыў загадкавым, трывожна-хвалюючым вобразам-гіпербалай «С перспективы Трансильвании». «Тут ніводзін народ не з'яўляецца ўласнікам», – піша сучасны польскі мысліцель Кшыштаф Чыжэўскі, міжволі агучваючы галоўную інтрыгу. А, між тым, палякі, рускія, літоўцы, беларусы жадалі менавіта гэтага, з рознай сілай перакананасці. А габрэі? Іншаму, хто прыязджаў у Вільню ў пачатку XX стагоддзя, магло падацца, што гэта менавіта іх горад. Але адзіныя габрэі не замахваліся на валоданне Вільняй.

На зломе першага–другога дзесяцігоддзя XX стагоддзя ў Паўднёва-Заходнім краі Расійскай імперыі ў перманентнай барацьбе праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла своеасаблівай і цікавай з'явай прадстае дзейнасць «Dwutygodnika dyecezalnego wilenskiego»(«DDW»). У той час прававы стан касцёла Расіі быў такі, што афіцыйны орган Віленскай епархіі павінен быў вытрымаць старанна збалансаваную пазіцыю: ажыццяўляць сваю нялёгкую місію калектыўнага пастара і інфарматара ў самай вялікай па колькасці прыхаджан епархіі і пры тым парадаксальным спосабам задавальняць галоўнае патрабаванне ўлады – не займацца прапагандай каталіцызму і крытыкай праваслаўя. «DDW» менавіта так гэта і рабіў – парадаксальным спосабам: яго публікацыі, якія краналіся прыроды праваслаўя і каталіцызму, уяўляюць сабой перадрукоўку тэкстаў расійскіх праваслаўных часопісаў, улётак, брашур і нават выступаў у Дзяржаўнай Думе праваслаўнага святара-дэпутата. Дарэчы кажучы, адно з самых вядомых і распаўсюджаных праваслаўных выданняў – часопіс «Епархіяльныя ведамасці» – рабіў тым жа чынам, звяртаючыся часам да перадрукоўкі з каталіцкіх выданняў. Але галоўную ў Расіі царкву прымушала да гэтага зусім не цэнзура, а праблематычнасць, немагчымасць адназначнага вырашэння пытання аб русіфікацыі касцёла: праваслаўнае духавенства баялася, «что это дело кончится тем, что католическое духовенство получит равные права с православным».

У № 14 «DDW» пад назвай «Трактовка папизма и католицизма» з № 13–14 «Вестника Виленского Свято-Духовского братства» перадрукаваныя вялізныя фрагменты матэрыялаў рэдактара апошняга – архімандрыта Іаана. Ва ўступе да публікацый з сарказмам гаворыцца, што каб «DDW» дазволіў сабе палемізаваць з «Вестникам» з выкарыстаннем тых самых догм, то ён, без сумнення, быў бы канфіскаваны. Далей становіцца ясна, што прывабіла ў гэтых тэкстах рэдакцыю «DDW». Тэксты з «Вестника» ўражваюць агрэсіўнасцю і надзвычай нізкім узроўнем. Аргументацыя, нават самая слабая, замяняецца рытарычным пытаннем. Напрыклад: «Кто не видит, что католический костел воспитывает в людях не чувства братства в отношении россиян – своих братьев, а наоборот – страшную ненависть к ним!? Кто не видит необузданного фанатизма католического духовенства, которое своими проповедями, призваниями разжигать ненависть к православным, вплоть до публичного оплёвывания православного духовенства, закидывания камнями православных святынь, каплиц и т.д. и т.п. Вот факты, с которыми, по нашему мнению, прежде всего следует считаться, когда кто-либо начинает говорить о соглашении с поляками...».



Як бачым, нізкі ўзровень тэкстаў відавочны, як і адсутнасць фактаў, на чым гэтак настойліва акцэнтуецца ўвага. Відавочна і адсутнасць неабходнасці «DDW» у гэтым выпадку ўступаць з праваслаўем у адкрытую палеміку, якая ўладамі можа трактавацца як антыправаслаўная агітацыя, забароненая законам. І нам не было б патрэбы так разгорнута цытаваць, калі б не прамільгнула сакраментальная, амаль сакральная звязка «каталік–паляк». Распачата з каталіцтва, скончана палякамі. А ў сярэдзіне: «расіяне-праваслаўныя». Так, гэта знакамітая ідэалагема: «Каталік – значыцца паляк; праваслаўны – значыцца рускі», якая працуе і ў XVIII стагоддзі для абодвух бакоў, але ў другой палове XIX стагоддзя для рускага боку яна ўжо вычарпала сабе. «На смену ей, – піша В.Янкоўская, – начала выступать другая:белорусы-католики – это уже не русские, но ополяченные за то время, что находились под властью Польши, где главенствующей религией было католичество. Поэтому их нужно вернуть и к православной вере и к русской народности». Але раз так хутка старая ідэалагема так вытанчана, па спіралі праходзіць у праваслаўным тэксце, што прымітыўны не ягоны аўтар, а тэкст, спрацаваны пад прымітыў, свядома накіраваны да маларазвітога, малаадукаванага чытача. Дык што ж, выбух, зроблены «DDW», быў міма цэлі? Не, болей за тое, на наш погляд, ён дазволіў польскаму каталіцкаму касцёлу, не парушаючы традыцый і гістарычна асветленых табу, амаль безбалюча зрабіць крок да новых рэалій. Справа ў тым, што напрыканцы перадрукаванага праваслаўнага тэкста закралася слова, немагчымае да тае пары для каталіцкага часопісу – «беларусы». Тое, рэальнасць чаго даўно ўжо прызнавалі рускія, для якіх беларускі народ (як і ўкраінскі) калісьці раптам стаў не болей і не меней чым «отрасль великого русского народа», як яго вызначаў, напрыклад, Георгі, епіскап Мінскі і Тураўскі, для польскага каталіцкага ўсведамлення было не больш чым нейкі фантом ці гук, што даносіцца чужымі вуснамі. У прыродзе, натуральна, існавала нешта, што называлася па-рознаму ў залежнасці ад абставін: «крэсаўцы», «автохоны», нават «краёўцы» ці, калі так неабходна, – «палякі». Але калі за літоўцамі, якія значна апярэдзілі беларусаў у нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і арганізацыі, на грамадска-палітычную арэну выйшла беларуская інтэлігенцыя, каталіцкі касцёл на старонках «DDW» вырашыў магчымым зрабіць першы крок ёй насустрач.

**В.МІТКЕВІЧ-ЖОЎТАК**

# Прыватны музей Янушкевічаў

**Рэдкі выпадак у музейнай справе – мастак стварыў свой музей. Па велічыні і багацці экспанатаў гэта другі ў рэспубліцы прыватны музей. (У Старых Дарогах музей выяўленчага мастацтва і гісторыі стварыў Анатоль Белы пад эгідай Менскага культурна-асветніцкага клуба «Спадчына».)**

**Заснавальнік Ракаўскага прыватнага музея – шырока вядомы мастак Фелікс Янушкевіч. З дапамогай брата – скульптара Валяр'яна – і падтрымцы грамадскай арганізацыі «Акадэмія выяўленчага мастацтва», якая дзейнічае з 1995 года, паўстаў адмысловы двухпавярховы будынак з чатырма выставачнымі заламі, насычанымі цікавымі экспазіцыямі. Афіцыйна яго рэгістрацыя была прымеркавана ў гэтым годзе да 50-гадовага юбілею Фелікса Янушкевіча.**

Гасцінны, добразычлівы, вытанчана-шляхетны гаспадар музея раскажа наведвальнікам аб паходжанні назвы горада, яго гісторыі, развіцці, занятках яго жыхароў у розныя эпохі. Пасля наведання музея зусім іншымі вачыма глядзіш на Ракаў, ганарышся развітой яго даўняй культурай, якая выяўляецца ў больш за 1700 керамічных вырабах, якія сабраны для экспазіцыі. На іх збор пайшло трыццаць гадоў карпатлівай працы братоў Янушкевічаў.

«Мастацтва ракаўскай керамікі ні ў чым не ўступае ні заходняй, ні ўсходняй культуры», – гаворыць Фелікс. Ім адшукана ў раскопках аж 91 узор кафлі. Шмат знойдзена геральдычных выяваў. Адна з іх унікальная, яна – невядомая і не пазначана ў энцыклапедыях.

Побач з керамікай экспануецца выяўленчае мастацтва саміх гаспадароў музея, братоў Янушкевічаў, якія належаць да старадаўняга беларускага шляхецкага роду. Карціны, скульптуры, шмат побытавых рэчаў як мінулых, так і цяперашніх жыхароў горада. Кожная з іх – рарытэт. Адна з залаў сустракае наведвальнікаў вялікай скульптурай Адама Міцкевіча - гэта мадэль Наваградскага помніка, выкананага Валяр'янам. У вялікага паэта продак братоў – Еўстафі Янушкевіч – быў асабістым сакратаром.

Унікальнымі экспанатамі выступаюць партрэты Мікалая II і яго жонкі (графіка на медзі), знойдзеныя ў непрыкметным дамку адной бабулькі. Яны змяшчаліся ў яе над ложкам, перажыўшы польскую, нямецкую, савецкую эпохі. Ну, ці не дзіва? Для бабулі яны сімвалізавалі праваслаўную веру.

Узгадваецца ў музеі і пра Міхала Грушавіцкага – малавядомага дагэтуль кампазітара, які нарадзіўся непадалёк ад Ракава. Ён пісаў буйныя музычныя творы. Адзін з іх памяць старажылаў данесла – гэта была музыка на паэму Адама Міцкевіча «Дзяды». Надмагільны помнік кампазітара, які адшукалі на мясцовых могілках браты Янушкевічы, мае высечаную на ім музычную эпітафію на словы раманса Сыракомлі «Тут наш лірнік вясковы скакаў, граючы на ліры».

Музейная экспазіцыя закранае і гісторыю паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Канстанціна Каліноўскага. З нечаканага боку падаецца наведвальніку гісторыя Грунвальдскай бітвы. Гаспадар музея раскажа пра малавядомыя факты аб тых, хто зрабіў важкі ўнёсак у тую перамогу.

У музеі экспануецца памежны польскі слуп № 656. Такія слупы ў 1939 годзе знішчалі і немцы, і Саветы, а вось адзін з іх знойдзены і рэстаўраваны. Цікавым падаюцца экспанаты пашпартоў грамадзян: польскі, з якім можна было ездзіць куды заўгодна; савецкія, якія выдаваліся ў выключным выпадку. Пры немцах гэтыя пашпарты не адбіралі, а ставілі ў іх штэмпель рэгістрацыі.

Рыхтуецца да экспазіцыі карціна Фелікса «Гісторыя Ракава ў партызанскім краі». Гэта трагічная старонка таго часу. У памяць ракаўчан надоўга ўрэзаўся жудасны выпадак. У жніўні 1942 года сабралі членаў Саюза беларускай моладзі, быццам бы іх павязуць на турыстычны злёт у Радашковічы. Дваццаць шэсць падлеткаў добра падпаілі гарэлкай, пасадзілі на падводы і вывезлі за Ракаў, а там ужо іх чакалі. Ссаджвалі, пустыя вазы адпраўлялі назад, а над дзецьмі пачалі крывавую расправу. Ім адразалі вушы, геніталіі, выколвалі вочы, выразалі на спінах свастыкі. Калі ахвяры прывезлі ў мястэчка, адна з маці не вытрымала, звар'яцела. Ахвяр бандытаў пахавалі на мясцовых могілках. Помнік усталявала тагачасная мясцовая беларуская ўлада, аб чым сведчыць надпіс. Помнік быў знішчаны, але нядаўна адшуканы і паўстаў зноў. Адказнасць за забойства дзяцей-падлеткаў ніхто не ўзяў на сябе. Выпадак не даследаваны і, што прыкра, нават у сучаснай афіцыйнай «Памяці» на яго «не хапіла месца». Як бы гэтыя юныя пакутнікі – не ахвяры вайны.

Ракаўскі музей братоў Янушкевічаў – гэта зніт аванне гісторыі, этнаграфіі, мастацтва, ён адраджае старадаўнюю традыцыю беларускіх прыватных сядзібных музеяў, якія стагоддзямі складалі славу сваім гаспадарам і паветам

**Мікола ЛАВІЦКІ**



Самы стары будынак Ракава – праваслаўная царква (былы касцёл)

 



# Каб жыцьцё сьвяткаваць ад вясны да вясны...

***Інтэрв`ю выбітнага беларускага гісторыка Янкі Запрудніка спецыяльнаму карэспандэнту газеты «Новы Час» Вераніцы ПАНІЗЬНІК***

**Вераніка Панізьнік:** *Спадар Ян, Вы ў Амерыцы ўжо не адзін дзесятак гадоў... На вашых вачах зьмяняліся пакаленні беларусаў-эмігрантаў. У сувязі з гэтым у мяне пытанне – як Вы можаце ацаніць апошнюю хвалю эміграцыі ў параўнанні, скажам, з ранейшымі: ці годныя яны «людзьмі звацца!...»?*

**Янка Запруднік:** Так, я жыву ў Амэрыцы даўно, ужо 47 гадоў. Калі прыехаў у Нью-Ёрк у 1957 годзе, мне было 31 год, а сёньня – 78. За гэты час зьмянілася шмат чаго ў жыцьці амэрыканскіх беларусаў. Адышло амаль поўнасьцяй ад грамадзкага жыцьця цэлае пакаленьне. Прыйшлі новыя людзі: або народжаныя тут, або прыбылыя зь Беларусі. Ну, што ж, гэта нармальна: найбольш трывалая адзнака жыцьця – гэта бясконцыя зьмены.

Што да апошняй хвалі эміграцыі, дык гэта пераважна маладыя людзі, суродзічы, якія, бясспрэчна, годныя, як вы кажаце, «людзьмі звацца», але беларусамі шмат каго зь іх даводзіцца называць толькі ўмоўна, калі пад словам «беларус» разумець асобу нацыянальна сьведамую й беларускамоўную. «Новыя» беларусы ў большыні выпадкаў вельмі слаба прывыкшыя да адказнасьці за грамадзка нацыянальнае жыцьцё, а яшчэ менш падрыхтаваныя да палітычнае працы на карысьць незалежнасьці Беларусі. Тлумачыцца гэта, з аднаго боку, іхным савецкім узгадаваньнем, а з другога – неабазнанасьцяй з новымі абставінамі. Але мушу адразу ж зазначыць, што ёсьць сярод іх людзі адданыя грамадзкай справе, здольныя й творчыя. І якраз яны, упэўнены, забясьпечаць працяг беларускаму жыцьцю й палітычнай працы ў Амэрыцы.

**В.П.:** *Вось адбылася 26-ая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі... На Вашай жа памяці, натуральна, шмат іх было... Скажыце папраўдзе, якія працэсы Вы назіраеце – прагрэс ці рэгрэс сярод беларускай суполкі?*

**Я. З.:** Калі мераць беларускае жыцьцё ў Амэрыцы меркай колькасьці грамадзка актыўных асобаў, самаахвярных будаўнікоў нашых цэнтраў, выдаўцоў, пашыральнікаў і спажывальнікаў роднага друкаванага слова, дык трэба назваць працэс апошніх 10–15 гадоў рэгрэсам. Але зьява гэтая заканамерная. Рэч у тым, што колькаснага папаўненьня беларускай дыяспары ў Амэрыцы й Канадзе на працягу 1960–1980-х гадоў ня было, за выключэньнем паасобных выпадкаў. Наша грамадзка-рэлігійнае й грамадзка-культурнае жыцьцё за гэтыя дзесяцігодзьдзі менш-больш устабілізавалася было й трымалася на тым самым узроўні недзе да сярэдзіны 80-х гадоў. А тады пайшло на спад. Апошняе ж дзесяцігодзьдзе, як ведама, сталася сьведкам ажыўленьня беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы.



**Янка Запруднік ( у першым радзе пасярэдзіне) сярод удзельнікаў Міжнародных Купалаўскіх чытанняў каля музея Янкі Купалы (фота з архіву Сяргея Панізьніка)**

**В. П.:** *А якія ўражанні наогул ад Сустрэчы ў параўнанні з мінулымі, якія праходзілі на амерыканскім баку: узровень арганізацыі, колькасць прысутных, актыўнасць удзельнікаў, актуальнасць пытанняў і г.д.?*

**Я. З.:** Папярэднія сустрэчы, бальшыня якіх праводзілася ў Злучаных Штатах – у Нью-Ёрку, Нью-Брансвіку, Дэтройце, Клііўлендзе – былі больш люднымі, больш наладаванымі палітычна, з большым удзелам у іх амэрыканскага палітычнага сьвету. І гэта зразумела, паколькі тады вялася халодная вайна паміж Усходам і Захадам, у якую былі моцна заангажаваныя амэрыканскія палітыкі: Белы Дом, кангрэсмэны, губэрнатары, мэры гарадоў. Але мушу сказаць, што 26-я Сустрэча, улічваючы параўнальна невялікую колькасьць адказных за ейнае правядзеньне асобаў, праходзіла выдатна з гледзішча арганізацыйнага, палітычнага, а таксама культурна-ідэйнага. Колькасьць і актыўнасьць удзельнікаў як з канадзкага боку, гэтак і з амэрыканскага боку, думаю, задавальняльная. З Амэрыкі магло б быць больш людзей, але шмат каму з «новых» перашкодзілі прыехаць ці то неўладкаванасьці з дакумэнтамі, ці то фінансавы бар'ер.

**В. П.:** *Дазвольце мне з Вамі, спадар Ян, падзяліцца сваімі назіраннямі... Упершыню мне пашчасціла быць прысутнай на такой буйной падзеі, як 26-я Сустрэча беларусаў, асабіста пазнаёміцца з легендарнымі дзеячамі беларускай эміграцыі Канады і Амерыкі, імёны якіх я неаднойчы чула з бацькавых вуснаў, ды і будучы студэнткай вядомага ліцэя пры Беларускім Гуманітарным Адукацыйна-культурным цэнтры... Я ўважліва ўслухоўвалася ў даклады прамоўцаў, у меркаванні ўдзельнікаў дыскусіяў, углядалася ў твары маіх суайчыннікаў... Потым з цікавасцю ўчытвалася ў «Беларускі Дайджэст», «Беларус» (амерыканская эміграцыйная перыёдыка) і «Беларускае слова» (канадская газета)... Аналізавала... і ўвесь час пакутліва думалася: прадстаўнікі амерыканскіх беларусаў і канадскія – розныя....І гэтая думка не давала мне спакою ўсе тры дні Сустрэчы... І, нарэшце, я зразумела: «амерыканцы» – больш прагрэсіўныя, калі можна так сказаць, больш смелыя на язык, палітычна арыентаваныя... А «канадцы» – больш памяркоўныя. Калі правесці паралелі між артыкуламі ў прэсе, дык заўважна: у тутэйшых нарысах пераважаюць мары, філасофскія разважанні... Міжволі ўзнікае рытарычнае пытанне: а дзе ж дзеянні? Магчыма, што гэта толькі першае ўражанне.*

**Я. З.:** Вашы ўражаньні чыста суб'ектыўныя, думаю. Па-першае, у вас вельмі малая і нераўнамерная база для параўнаньня. З Амэрыкі прыехала на Сустрэчу ня больш як 25 асобаў, тым часам як «канадцаў» тут значна больш. Па-другое, усякае абагульненьне такога роду вымагае, каб быў менш-больш аднолькавы падбор індывідумаў з аднаго боку й з другога. Вы ж параўноўвалі з амэрыканскага боку старэйшых асобаў, якія пражылі ў Штатах даўжэйшы час і больш дасьведчаныя ў палітычнай дзейнасьці, а з канадзкага – маладзейшых «новых» беларусаў, якія ў Канаду прыехалі параўнальна нядаўна й таму менш спрактыкаваныя. Майце на ўвазе, што са Злучаных Штатаў прыбылі на Сустрэчу такія шматгадовыя грамадзкія й палітычныя працаўнікі, як Мікола Прускі з Грэнд-Рапідс, Ванкарэм Нікіфаровіч і а. Дзімітры Башко з Чыкага, Аўген Кабяка з Кліўленду, Ала Орса-Рамана і Якаў Гутман зь Нью-Ёрку, Вячка Станкевіч ды Вітаўт і Юрка Кіпелі зь Нью-Джэрзі, Алеся Кіпель з Вашынгтону ды іншыя. Іхная, як Вы кажаце, «прагрэсыўнасьць» і «сьмеласьць на языку» – гэта шматгадовы стаж. І якасьць іхнага ўдзелу ў працы Сустрэчы, якую Вы заўважылі, гаворыць галоўна за іх самых, а не за ўсіх амэрыканскіх беларусаў. Праўда, тая тонка адзначаная Вамі розьніца паміж «амэрыканцамі» й «канадцамі» адлюстроўвае дынамізм, якім адзначаецца амэрыканская палітычна-сацыяльная сыстэма, што дае большую свабоду індывідуальнай дзейнасьці ў параўнаньні з сацыялізаваным палітычным ладам Канады. Індывідуальная ініцыятыва ў Амэрыцы мае больш шанцаў на рэалізацыю, і гэта ў нейкім сэньсе ўплывае на характар амэрыканца. Але наогул, думаю, што нашыя людзі, якія нарадзіліся ў Беларусі, калі й мяняюцца ад даўгога пражываньня ў тэй ці іншай краіне, дык у нязначнай ступені, бо гены й псыхіка – атрыбуты вельмі ўстойлівыя. Што да маіх уражаньняў пра канадзкіх беларусаў, дык я пабачыў актыўных беларусак і беларусаў, вельмі здольных да арганізацыйнай дзейнасьці. Сьціплая колькасна грамада выдатна справілася зь вялікай нагрузкай, якую яна ўзяла на сябе ў сувязі з Сустрэчай.

**В. П.:** *Вось і праблема, якую Вы, спадар Ян, узнялі ў дакладзе – крайне вострая: «Беларуская дзяржаўнасьць на сучасным этапе: замацоўваецца ці расслабляецца?». А як бы Вы, як сустаршыня Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі адказалі б на гэтае пытанне?*

**Я.З.:** На гэтае пытаньне я адказаў у сваім дакладзе, зь якога дазвольце працытаваць: «Адказ такі: замацоўваецца інстытуцыйна; факт існаваньня дзяржавы заглыбляецца ў сьведамасьці палітычнай эліты й маладога пакаленьня, умацоўваецца ў міжнароднай сфэры. І разам з тым дзяржаўнасьць слабее сваім нацыянальна-культурным зьместам, у тым ліку беларускай мовай. Сучасная РБ – дзяржава анамальная: форма свая, зьмест у вялікай меры чужы. У яблыку беларускай дзяржаўнасьці сядзіць расейскі чарвяк. У гістарычнай пэрспэктыве ўсё гэта пагражае зьвесьці нацыянальную дзяржаўнасьць да зьявы пераходнае, якая можа быць заменена радыкальна іншай формай. Таму мы стаім перад заданьнем: пашыраць і паглыбляць у нашым грамадзтве разуменьне, што якар беларускай дзяржаўнасьці, ейная трываласьць і росквіт заключаюцца ў вывучэньні й разуменьні свайго апрычонага гістарычнага шляху, свае духовае самабытнасьці, унікальнасьці беларускага культурна-цывілізацыйнага кампанэнту як часткі сусьветнай культуры. Трываласьць беларускай дзяржаўнасьці будзе таксама залежаць ад высокаякаснай культурнай творчасьці на народнай глебе, ад прыношаньня ў сусьветную культурную скарбніцу нашага ўнікальнага жыцьцёвага дазнаньня ды мірнага бачаньня сьвету, як выніку Беларускага Гістарычнага Шляху».

**В. П.:** *А якая, у Вашым разуменні, роля амерыканскіх беларусаў-эмігрантаў сярод беларускіх дыяспар свету?*

**Я.З.:** Ня бачу, каб амэрыканскія беларусы як група бралі на сябе нейкую ролю сярод беларускай дыяспары сьвету. Хоць наогул магла б быць нейкая ініцыятыва наладзіць кантакты зь беларускімі арганізацыямі ў іншых краінах. Некалі, пад канец 1940-х гадоў, у Заходняй Эўропе была спроба стварыць міжнародны цэнтар беларускай эміграцыі. У Парыжы адбыўся адмысловы зьезд прадстаўнікоў, была выбраная ўправа задуманага цэнтру. Але ініцыятыва тая далёка не пайшла, бо неўзабаве беларускія эмігранты, уцекачы ад бальшавізму, разьехаліся ў бальшыні па заакіянскіх краінах. Сёньня, у зусім новых геапалітычных абставінах, ролю такога цэнтру да пэўнай меры выконвае Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Згуртаваньне, як ведаеце, выдае штомесячны бюлетэнь «Беларусы ў свеце». А ў Амэрыцы цяпер, як і ў Канадзе ды іншых краінах Захаду, дзе жывуць беларусы, настаў пераходны пэрыяд, калі кіраўніцтва асяродкамі паступова пераймаюць «новыя»

Янка Запруднік (сапраўднае імя Сяргей Мікалаевіч Вільчыцкі; нарадзіўся ў 1926 годзе ў Міры на Гаадзеншчыне) - беларуск1 гісторык, палітолаг, паэт, літаратуразнавец, публіцыст. З 1944 у эміграцыі. Скончыў Лувенскі ўніверсітэт (Бельг1я, 1954). У 1947 дэбютаваў вершамі пад псеўданімам Сяргей Ясень. Браў удзел у выданні часопіса «Наперад» (1948-53), дзе"друкаваліся і яго творы. У 1954-91 супрацоўнік беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». У 1970-75 адначасова выкладаў гісторыю у Куінскім каледжы гарадскога ўніверсітэта Нью-Йорка. Уваходзіў у склад рэдкалегіі часопіса «Беларуская моладзь» (1959-64), рэдагаваў бюлетэнь «Навіны з Беларусі» (1964-69) быў галоуным рэдактарам газеты «Беларус» (1970-80, з 1980 папераменна з З.Кіпель). У 1969 абараніў доктарскую дысертацыю «Палітычная барацьба за Беларусь у царскай Дзяржаўнай Думе. 1906-1917». Аўтар кніг: «Спадчына бацькоў:»Агледзіны» (Да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа)». Яго манаграф1я «Беларусь на г1старычных скрыжаваннях» (1993, на ангельскай мове, ) знаёміць заходняга чытача са шматвяковай гісторыяй і сучасным станам Беларусі. У 1996 годзе выдадзена ў Мінску на беларускай мове.

 

# Каб жыцьцё сьвяткаваць ад вясны да вясны...

беларусы. З часам можа й адродзіцца думка стварыць на Захадзе нейкі каардынацыйны цэнтар беларускай дыяспары. Нешта падобнае адбываецца цяпер у Эўропе, дзе сёлета прайшлі два зьезды беларусаў-эмігрантаў з розных краінаў - адзін у чэскай Празе, другі ў бэльгійскім Антвэрпэне. З часам выявіцца, ці такая ініцыятыва апраўдае сябе ды ці яна дачакаецца пашырэньня.

**В. П.:** *Ці падтрымліваюцца шчыльныя сувязі з нашымі суайчыннікамі ў Вялікім Свеце?*

**Я.З.:** Калі пад «Вялікім Сьветам» вы разумееце іншыя краіны, дык «шчыльныя сувязі» падтрымліваюцца найбольш індывідуальным парадкам. Дапамагае гэтаму цяпер найбольш Інтэрнэт. Арганізацыйна міжнародную сувязь трымаюць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва з цэнтрам у Нью-Ёрку ў сваёй навукова-выдавецкай працы, а таксама газэты «Беларус» і «Беларускі Дайджэст» ды квартальнік «Belarusian Review», зь якім супрацоўнічаюць асобы ў розных краінах, дый чытачы якіх таксама расьселеныя па цэлым сьвеце .

**В. П:** *Абсягі Вашай грамадскай і навуковай дзейнасці шырокія: вядома, што Вы, спадар Ян, актыўна рэагуеце на праблемы, не перабольшу, калі скажу – жыцця і смерці беларускага грамадства: выступаеце ў беларускай і эміграцыйнай прэсе з аналітычнымі артыкуламі...А як Вашая творчая асабістая дзейнасць? Якія ўмовы і магчымасці працы ў Амерыцы? Мушу адзначыць, што апошнія Вашыя кнігі – «Дванаццатка» і «Беларускія мастакі ў замежжы» – мяне ўзрушылі.*

*Вядома, што Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага была дабрадзеем выдання кнігі «Крывіцкія руны», укладальнікам якой стаў Сяргей Панізьнік.*

*У Мінску цікавяцца: мо ёсць пэўныя крытычныя заўвагі?*

**Я. З.:** Кніга «Крывіцкія руны. Беларускія пісьменнікі Латвіі», выдадзеная ў сэрыі «Беларускі кнігазбор» у 2003 годзе, вельмі інфарматыўная, багатая й разнастайная зьместам. Выданьне прыгожа афармленае, ілюстраванае. Каштоўная крыніца фактаў пра беларускае жыцьцё ў Латвіі. Я ўдзячны Вашаму бацьку й майму дарагому сябру Сяргею Панізьніку за прысланы экзэмпляр. Рады таксама, што нашая Фундацыя імя П. Крэчэўскага паспрыяла выданьню кнігі. Спадзяюся, што «Крывіцкія руны» паслужаць прыкладам да выданьня падобных зборнікаў пра жыцьцё беларусаў іншых сумежных рэгіёнаў сучаснай Беларусі, не дасьледаваных з падобнага боку.

**В. П.:** *А як часта Вы бываеце на Радзіме?*

**Я.З.:** Ад часу, калі ўпяршыню мог вярнуцца ў Беларусь пасьля 48-гадовае ростані, у 1992 годзе, бываў там спачатку штогоду, а то й часьцей, а апошнім часам наведваю праз год. Езьдзіў да брата, які жыве ў Баранавічах, да цёткі й дваюрадных братоў і сёстраў, якія жывуць у Міры й Менску. Браў удзел у канфэрэнцыях, у зьездах беларусаў сьвету, двойчы быў у складзе амэрыканскіх дэлегацыяў, што вывучалі стан справаў у новай беларускай дзяржаве. Наведваў таксама Нацыянальную й акадэмічную бібліятэкі, Інстытут гісторыі АН. Думаю, што маё наступнае падарожжа на Бацькаўшчыну, калі ўсё пойдзе нармальна, адбудзецца налета, калі будзе праходзіць чацьверты зьезд беларусаў сьвету.

**В. П.:** *Спадар Янка, як вам удаецца трымаць шчыльную сувязь з родным мацерыком на адлегласці больш за дзевяць тысяч кіламетраў?*

**Я.З.:** Апрача адведак родных і сяброў на Бацькаўшчыне, трымаю тэлефонную й лістоўную лучнасьць з заакіянскай адлегласьці. Чытаю даступныя айчынныя газэты й часопісы, друкаваныя й інтэрнэтаўскія, пераглядаю штодня праграму Радыё Свабода ды іншыя сайты на Інтэрнэце, якіх цяпер цэлая маса, ды сустракаюся з наведнікамі зь Беларусі, што апошнімі гадамі даволі часта прыяжджаюць у Амэрыку. Беларусь жыве й пульсуе ў маім сэрцы й думках ад раньня да вечара, ад панядзелку да панядзелку, ад вясны да вясны.




**Гутарыла**
**Вераніка ПАНІЗЬНІК,**
**Канада**

# Беларуская кафля



**Тут паказаны ўзоры старадаўняй беларускай кафлі – ад эпохі барока да мадэрнізму пачатку XX стагоддзя. Ніякая сённяшняя тэхналагічная кафля, нават апетая рэкламшчыкамі італьянская, не можа ставіцца і ў блізкае параўнанне з гэтымі вырабамі. У нашых даўніх майстроў быў добры густ і яны маглі выраблять тавар зайздросных стандартаў**

**ЁСЦЬ БЕЛАРУСКІ ФАН-КЛУБ**

Маладымі сябрамі Таварыства Беларускай Мовы створаны фан-клуб айчыннай музыкі.

Больш за 30 чалавек прыйшло на арганізацыйны збор. Самае прыемнае, што ўсе яны праявілі відавочную актыўнасць у абмеркаванні сфераў будучай дзейнасці. Асноўнай мэтай фан-клубу стане папулярызацыя айчыннай музыкі праз правядзеньне рознага кшталту акцый: тэлефанаваньні на радыё, распаўсюд музычнай прадукцыі, арганізацыя сустрэч з вядомымі музыкамі, збор подпісаў і.інш. Для маючых творчую схільнасць будзе шанц паспрабаваць сябе ў музычнай журналістыцы. Клуб будзе збірацца кожны чацвер на тым жа месцы, у той жа час (18.00): Мінск, вул. Румянцава, 13, ТБМ (раён інстытуту замежных моваў, ст. метро «Плошча Перамогі»).

**ЛЕГЕНДЫ ВЯРТАЮЦЦА**

29 кастрычніка ў Доме Літаратара (ст.м.Плошча Перамогі, вул. Фрунзэ,5) ў межах праекта ЛЕГЕНДЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА адбудзецца канцэрт гурта

LITUUS (экс-КАНТРАДАНС) з праграмай «Полацкі сшытак, Віленскі

сшытак і інш.». Пачатак 19:00.

**«НОВАЕ НЕБА» Ў КЛАСІЧНЫМ СКЛАДЗЕ**

30 кастрычніка ў Доме Літаратара (ст.м.Плошча Перамогі, вул. Фрунзэ,5)

адбудзецца канцэрт КАСІ КАМОЦКАЙ (НОВАЕ НЕБА). У канцэрце таксама удзельнічаюць: Алесь Камоцкі, Вячаслаў Корань.

**ФІЛАФАНІСТЫ КУЧКУЮЦЦА ВАКОЛ ЖЫВЫХ ЗОРАК**

23 кастрычніка а 12:00 на клубе філафаністаў ў ДК МТЗ (ст.м. Трактарны завод) адбудзецца сустрэча з гуртом INDIGA (раздача аўтографаў, адказы на пытаньні, невялікі канцэрт).

**НЕСУПЫННЫ ВАЙЦЮШКЕВІЧ**

21 кастрычніка ў Палацы Культуры Ветэранаў (Я.Купалы, 21) адбудзецца вялікі сольны каанцэрт Зьміцера Вайцюшкевіча з праграмай «Лепшыя і новыя песьні. Пачатак 19:00.

**ЗНОЎ ПАНКІ, ЗНОЎ «ТАНКІ»**

22 кастрычніка ў клубе «РЭАКТАР» пройдзе юбілейны канцэрт гурта «НЕЙРА ДЗЮБЕЛЬ», прысьвечаны 15-годзьдзю калектыва. І гэта да таго ж прэзентацыя новага альбому «Танкі». Пачатак а 19.00.

**УСЁ ЛЕПШАЕ - Ў АДНЫМ КАНЦЭРЦЕ**

13 лістапада ў к/з «Мінск» адбудзецца сумесны канцэрт легендарных гуртоў «ULIS» і «ЭТНА-ТРЫО ТРОІЦА». Пачатак а 19.00.

**КУПІ-ПРАДАЙ-АБМЯНЯЙ...**

Штосуботу з 11:00 да 15:00 на клубе філафаністаў у ДК МТЗ (ст.м. Трактарны завод) працуе гандлёва-абменная кропка беларускай музыкі. Вас чакаюць:сустрэчы з вядомымі музыкамі, знаёмства з аднадумцамі, музычныя навінкі, прадукцыя па самых танных коштах, квіткі на канцэрты і шмат іншага.

Даведкі: 2412474, 7662425 (Янак).
Даведкі і замовы квіткоў: 6490888, 7662425, 4006774.

Кніжная выстава на сядзібе ТБМ

Новыя ды рэдкія кнігі, падручнікі, слоўнікі, энцыклапедыі, відэа, аўдыё, CD шукайце на менскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) з панядзелка па пятніцу (11.30 – 17.30)

Тэлефон: 8–029–7074001

# Лэдзі Дасканаласць

*«З люстэрка на мяне глядзіць маркотная рыба» – самаацэнка вялікай актрысы. «Мэрыл – гэта жывое ўвасабленне Мэры Попінс» – думка гледачоў*




У 1983 годзе знакаміая рок-спявачка Шэр, рыхтуючыся да здымак у адным фільме з Мэрыл Стрып, прызналася, што баіцца перад сустрэчай з актрысай: «Я адчувала сябе як перад аўдыенцыяй у папы рымскага. Яна была істотай з іншага свету. Я і... сама Мэрыл Стрып. У гэта немагчыма было паверыць!»

Магію асобы знакамітай амерыканскай актрысы адзначалі ўсе, каму пашанцавала разам з ёй працаваць ці проста зносіцца. Мэрыл Стрып заваявала сімпатыі мільёнаў гледачоў майстэрствам эмацыянальнай ігры, магнетычным уздзеяннем любячай, спачувальнай, таленавітай асобы. Менавіта Стрып са сваёй «нетыповай знешнасцю» сыграла мноства роляў чароўных, моцных і інтэлектуальных жанчын.

## Наканаванне

Мэры Луіза Стрып нарадзілася 22 чэрвеня 1949 года ў невялікім гарадку Саміт, штат Нью-Джэрсі, але неўзабаве сям`я перабралася ў суседні горад Бернардсвіль. Бацька Мэры Луізы служыў у фармацэўтычнай кампаніі, маці была мастачкай. Сярод продкаў актрысы можна знайсці выхадцаў з розных краінаў. «Як і большасць амерыканцаў я свайго роду дварняжка, – гаворыць Стрып – У мяне ёсць карані ў Германіі, Галандыі, Ірландыі, Англіі, продкі сярод габрэяў і амерыканскіх індзейцаў. І я напэўна некага запамятавала».

Здольнасць да пераўвасаблення стала выяўляцца ў Мэрыл Стрып ужо ў дзяцінстве. Мэрыл моцна любіла бабулю і, жадаючы быць падобнай на яе, малявала сабе зморшчыны на твары і насіла цёплыя швэдры. «У сем гадоў я выглядала на сорак і паводзіла сябе адпаведна, – прызнаецца Стрып. – Дзеці прымалі мяне за адну з настаўніц».

Упершыню Мэрыл выйшла на сцэну ў 12 гадоў. На школьным навагоднім канцэрце яна выканала калядную песню на добрай французскай, хаця вучыла мову нядоўга. Пазней гэтую здольнасць імітаваць замежныя акцэнты яна з поспехам выкарыстала ў сваіх ролях. Яе выступ быў такі ўражлівы, што кіраўніцтва школы накіравала дзяўчынку на вучобу да вядомай настаўніцы оперных спеваў Эстэль Ліблінг. Раз на тыдзень на працягу некалькіх гадоў Мэрыл Стрып ездзіла да яе на заняткі, песцячы мару аб кар`еры опернай спявачкі. Але даволі хутка, калі яна стала ўдзельнічаць у школьных спектаклях, цікавасць да драмы пераважыла. У пятнаццаць гадоў яна прыдумала сабе імя Мэрыл, дадаўшы літару ад другога свайго імя.

У дзяцінстве Мэрыл пакутвала з-за сваёй знешнасці – блізарукасці, няправільнага прыкусу, залішне даўгога носа. «Я была гадкае качаня, – прыгадвае Стрып. – У мяне былі мышынага колеру валасы, я насіла акуляры і была падобная на маленькую старую. На шчасце ў 15 гадоў у мяне хапіла розуму пайсці насуперак дарослым і зрабіць усё на свой густ. Я перафарбавалася ў бландынку, зняла з зубоў скобы, паставіла замест акуляраў кантактныя лінзы і адразу стала каралевай прыгажосці». Менавіта кепскае самаадчуванне «ва ўласнай скуры» дазволіла ёй, па яе словах, «выпрацаваць якасці сапраўднага хамелеона».

Мэрыл Стрып з поспехам выступала ў школьным тэатры – аднойчы ёй нават наладзілі авацыю, працавала ў школьнай газеце, пела ў хоры і была капітанам каманды падтрымкі школьных футбалістаў. На выпускным вечары яе абралі каралевай балу.

Жаночы каледж Васар, куды Мэрыл Стрып паступіла пасля школы, змяніў яе жыццё. «Я адчувала сябе выдатна... У Васары ўсе думалі ў першую чаргу аб выніках. Мы цалкам выкладваліся, і гэта рабілася звычкай». Скончыўшы каледж адной з лепшых, Стрып атрымала трохгадовую стажыроўку ў драматычную школу прэстыжнага Йельскага універсітэта.

За тры гады ў Йеле Мэрыл Стрып сыграла восем галоўных роляў, у асноўным у класічных пастаноўках – «Сон у летнюю ноч», «Браты Карамазавы». Стрып атрымлівала асалоду ад тэатральнай ігры, але і сумнявалася, што тэатр можа стаць аправай жыцця для грунтоўнага чалавека, якім яна сябе бачыла. На трэцім курсе Мэрыл Стрып наважылася і падала заяву на юрыдычны факультэт. Увечары, напярэдадні сумоўя, у яе быў спектакль. Стрып праспала і палічыла гэта прарочым знакам, што юрыдычная кар`ера не для яе.

## Кар`ера

У 1975 годзе яна скончыла Йельскую драматычную школу са ступенню магістра мастацтваў і прыехала ў Нью-Йорк пачынаць прафесійную акцёрскую кар`еру, да якой нарэшце палічыла сябе падрыхтаванай. На Каляды ёй пазваніў знакаміты рэжысёр Джозеф Пап і запрасіў яе ў свой тэатр. Дэбютам Стрып на прафесійнай сцэне стала роля французскай прынцэсы ў спектаклі «Генрых V». Хутка прыйшла прапанова ад тэатра «Фенікс». За выкананне ролі ў спектаклі «27 вагонаў бавоўны» Мэрыл Стрып была адзначана намінацыяй на прэстыжную тэатральную прэмію Тоні. На актрысу звярнулі ўвагу ў кіно.

Праз некалькі месяцаў у 1977 годзе Джозеф Пап запрасіў яе прыняць удзел у Нью-Ёркскім фестывалі Шэкспіра, які традыцыйна праводзіцца ў Цэнтральным парку пад адкрытым небам. У пастаноўцы «Вока за вока» партнёрам Стрып быў таленавіты акцёр Джон Казале, у якога яна закахалася і з якім яны заручыліся. Казале, вядомы нашаму кінагледачу па ролі Фрэдзі ў «Хросным бацьку», Стрып і дэ Ніра былі зацверджаны на ролі ў фільме «Паляўнічы на аленяў». Стрып сыграла ролю дзяўчыны з рабочага пасёлка, якая чакае свайго хлопца з В`етнама. Гэта быў яе другі фільм, але Стрып высунулі на вышэйшую ўзнагароду Амерыканскай акадэміі кінамастацтваў у намінацыі за лепшую жаночую ролю другога плану. Здавалася, што яе кар`ера складваецца выдатна. А насамрэч пакуль здымаўся фільм, яе сэрца разрывалася ад гора – Казале паміраў ад раку касцявога мозгу.

Скончыўны здымацца ў тэлесерыяле «Халакост», дзе ў яе была галоўная роля, наступныя некалькі месяцаў Мэрыл Стрып даглядала Казале. У апошнія некалькі тыдняў жыцця Казале яна перабралася да яго ў шпіталь, чытала яму на розныя галасы, падаючы персанажаў кніг, і сваёй захапляльнай ігрой прымушала смяяцца. Калі ў сакавіку 1978 года Джон Казале памёр, Мэрыл адчула сябе цалкам спустошанай.

## Сям`я

Каб забыцца, яна з галавой аддалася працы. У той жа час актрыса зняла ў Соха студыю, якая належала сябру ейнага брата архітэктару Дону Гамеру. Сяброўскае спачуванне Дона спакваля перарасло ў моцныя пачуцці. У верасні 1978 года за ролю ў серыяле «Халакост» Стрып атрымала прэмію «Эмі» і ў гэтым жа месяцы Дон і Мэрыл пашлюбаваліся. Плёнам гэтага моцнага саюза сталі чацвёра дзяцей, хлопчык і дзяўчынкі – Мэры, Грэйс і Люсі – ва ўзросце ад 25 да 13 гадоў.

Сям`я займае ў жыцці Мэрыл Стрып галоўнае месца. Калі яна чытае сцэнары, яе рашэнне здымацца шмат у чым залежыць ад таго, на які тэрмін ёй прыйдзецца расстацца з сям`ёй. З уласцівай ёй сціпласцю Стрып гаворыць аб сабе як «аб актрысе, якая, скончыўшы працу, як усе, вяртаецца дамоў да сям`і». Здараецца, Мэрыл Стрып прыпісваюць раманы з партнёрамі. «Усё гэта глупства», - адказвае актрыса. Але акцёры падпадаюць пад яе абаяльнасць. «Хто б ні іграў героя-любоўніка, абавязкова закахаецца ў яе, – гаворыць рэжысёр Майкл Нікалс. – А той, хто іграе злодзея, яе баіцца». Мэрыл Стрып робіць сур`ёзна любую работу - дома, у мастацтве, у грамадстве. Яна – вядомы і аўтарытэтны змагар з гонкай ядзерных узбраенняў, ачольвае нацыянальны рух супраць нітратаў, бо і ўзбраенні, і нітраты скіраваны супраць жыцця, супраць людзей, супраць яе сям`і.

## Ролі і ўзнагароды

У Мэрыл Стрып дзесяткі самых прэстыжных узнагародаў. 13 намінацый на прэмію «Оскар», столькі няма болей у ніводнай актрысы. «У мяне болей намінацый, чым у іншых. Гэта праўда. Але і прайгравала я болей за іншых, – адзначае Стрып. – Я ўмею прайграваць»,

Свой першы «Оскар» Мэрыл Стрып атрымала ў 1979 годзе за фільм «Крамер супраць Крамера». Насуперак неафіцыйнаму правілу не даваць «Оскар» за ролі адмоўных персанажаў, узнагароду прысудзілі Стрып. На працягу фільма яна з`яўляецца некалькі разоў, але вобраз, створаны Мэрыл Стрып, пакідае моцнае ўражанне. Каб лепш перадаць стан сваёй гераіні - маці, якая пакінула дзіця дзеля кар`еры, – Стрып сама напісала тэкст для сцэны ў судзе. «Калі я атрымлівала «Оскар», стары Галівуд быў яшчэ жывы, – узгадвае Стрып. – Побач мяне сядзелі Грэгоры Пек, Бет Дэвіс, Лоўрэнс Алів`е. Гэта надало цырымоніі пераемнасць».

Мэрыл Стрып ахвотна даручаюць ролі замежніц, з якімі яна выдатна спраўляецца. Яе лепшыя ролі - адрынутая віктарыянскім грамадствам англічанка Сара і актрыса Ганна ў «Жанчыне французскага лейтэнанта» (1981, намінацыя на «Оскар»), полька, якой даводзіцца аддаць на смерць сваё дзіця ў экранізацыі рамана Уільяма Стайрона «Выбар Сафі» (1982, «Оскар»), эмансіпаваная датчанка ў фільме «З Афрыкі» (1985, намінацыя на «Оскар»).

Разам з Робертам дэ Ніра яна здымалася ў драме аб двух маральных сужонцах, ахопленых каханнем («Закаханыя», 1984). Камедыйны дар Мэрыл Стрып выявіўся ў стужках «Д`ябаліца» (1989), «Смерць ёй да твару» (1992), а мастацтва спеваў Стрып можна ацаніць па фільме «Паштоўкі з таго свету» (1990). У 1995 годзе Клінт Іствуд паставіў ленту «Масты акругі Мэдысан», у якой ён і Мэрыл кранальна сыгралі каханне двух сталага ўзросту людзей.

## Сакрэт поспеху

У актрысы няма адказу на тое, як ёй удаецца пераканальна іграць. Яна ўжываецца ў ролю, і ў той жа час застаецца над ёй - як пісьменнік над матэрыялам. «Я не ведаю, як гэта ў мяне атрымліваецца. Я не ведаю. як гэта атрымліваецца ў іншых. Я бачыла, як Роберта дэ Ніра робіць пазнакі на палях у сябе ў сцэнары. Але я паняцця не маю, што ён там піша». Выдатны акцёр Дастын Хофман, яе партнёр па фільме «Крамер супраць Крамера», назваў Стрып «адзінай у сваім родзе». Дэкан Йельскай драматычнай школы так тлумачыць таямніцу яе даравання: «Яе сакрэт у ёй самой, у яе дзіўнай здольнасці да спачування. Уся яе кар`ера, кожнае яе з`яўленне на сцэне ці на экране асветлена гэтай іскрай, гэтай чалавечнасцю».

Калі Стрып пытаюць, ці адчувае яна задавальненне ад сваёй працы, актрыса адказвае, што атрымлівае яго, бачачы, як дзякуючы акцёрам набываюць плоць і кроў героі, якія маглі б застыць на паперы. І яшчэ для Стрып важна, ці зробіць фільм свет, у якім наканавана жыць яе дзецям, лепшым.

Стрып прызнаецца: «Іншым разам мне здаецца, што гавораць аб нейкім іншым чалавеку. Я лічу сябе чыёйсьці маці, чыёйсьці сястрой, чыімсьці дзіцем. У мяне шмат роляў у гэтым жыцці, якія я з задавальненнем выконваю. І толькі на такіх мерапрыемствах, як фестывалі, мне выказваюць удзячнасць і любоў, і гэта мяне часам здзіўляе».

На XXVI Міжнародным кінафестывалі Мэрыл Стрып атрымала прыз «Веру. Канстанцін Станіслаўскі». Так адзначаны яе выдатны ўклад у развіццё кінамастацтва. Унікальны талент і бліскучая індывідуальнасць актрысы дазволілі ёй ствараць вобразы, якія ўзвышаюць мільёны гледачоў верай у мастацтва і акрыляюць верай у жыццё.

**Таццяна АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Зміцер Сідаровіч:

## «У бардаўскай песні я раблю тое, што рабіў Караткевіч у літаратуры»

**Спектр беларускай бардаўскай песні надзвычай разнастайны: ад лірыкі да едкай сатыры і гумару, ад палымяных палітычных зонгаў да блюза... І кожны прадстаўнік гэтых напрамкаў знаходзіць сваіх прыхільнікаў, сваіх слухачоў. Мінскі бард Зміцер Сідаровіч таксама знайшоў сваю нішу на стылістычнай палітры беларускай бардаўскай песні. І дапамог гэтаму яго ўдзел у працы знакамітага ў сярэдзіне 90-х гадоў гурта «Камелот». Песні Сідаровіча з рэпертуару гурта «Камэлот» «Тры жалуды», «Краіна талераў», «Дуда, лютня ды бубен» сталі класікай гістарычнай музыкі Беларусі. Паколькі гэты гурт адыграў вельмі заўважную ролю ў станаўленні рок-музыкі Беларусі, мы не можам не закрануць «камелотаўскай» тэмы. Таму мы звяртаемся да Зміцера Сідаровіча з пытаннем аб значнасці для яго асабіста этапа супрацоўніцтва з гуртом «Камэлот». Тым больш, што «Беларуская музычная альтэрнатыва» па шматлікіх замовах слухачоў выдала паўторным накладам стаўшы ўжо рарытэтным кампакт-дыск гурта «Камэлот» «У краіне талераў». Але слова Зміцеру:**

– Нельга ж казаць, што я супрацоўнічаў з гуртом, калі я яго стварыў, так? Дакладней, мы ўжо існавалі з 1980 года, а ў 1991 годзе я склікаў хлопцаў, якія часова разышліся кожны па сваёй справе. Я быў тым «шылам», якое пастаянна іх калола – давайце зробім гэта, давайце напішам вось гэта... Мне было лёгка, бо гурт «Камэлот» – гэта суполка аўтараў «Камэлот», так яе трэба правільна называць. Як мастакі ўтвараюць суполку дзеля сумеснай канцэптуальнай выставы, так і мы ўтварылі «Камэлот». Гурт складаўся з аднадумцаў, сяброў, якіх, да з'яўлення «Камэлота», я ведаў ужо па 11 гадоў. Было і цяжка, бо мы спрачаліся больш, чым малазнаёмыя людзі, якія хочуць застацца ветлівымі. «Камэлот» усё адно з'явіўся вяршыняй нашых юнацкіх узаемадачыненняў.



Сам я пачаў пісаць песні раней, чым навучыўся граць на музычных інструментах – мне тады было 13 гадоў. У будучых удзельнікаў «Камэлота» існавала такое хобі – пісаць песні, прыходзіць адзін да аднаго ў госці і пры мінімальных рэпетыцыях запісваць песні на бытавы магнітафон. Такіх бабін у нас назапасілася з дзесятак, яны і зараз захоўваюцца, а на іх некалькі соцень песень. Таму да моманту, калі мы пачалі выступаць пад назвай «Камэлот», у нас ужо быў вызначаны музычны кірунак, усё было абумоўлена і абгаворана. Фактычна заставалася толькі «прычасаць» некаторыя песні, якія мы адабралі для праграмы на гістарычную тэматыку, і перазапісаць іх у якаснай студыі.

Так сталася, што абраны кірунак аказаўся вельмі актуальным, таму што гэта быў 1991 год, калі мы пачалі выступаць, і гістарычная тэматыка не была прадстаўлена ў нашай папулярнай музыцы. І вось тут з'яўляецца гурт, які тэматычна робіць песню за песняй... Не існавала яшчэ рыцарскіх клубаў, росквіт якіх мы зараз назіраем. Дык і не дзіўна, што пазней кожнаму неафіту, які прыходзіў у рыцарскі клуб, давалі слухаць запісы «Камэлота». А яшчэ пазней на нашай медыявільнай сцэне пачалі з'яўляцца іншыя гурты гэткай накіраванасці: «СтараЛітва», праект «Легенды Вялікага Княства», «Стары Ольса»... Удзельнікі гэтых праектаў, нашыя, і не толькі нашыя спадкаемцы і паслядоўнікі, сёння істотна развілі гістарычную папулярную песню ў Беларусі, за гэта ім трэба сказаць «дзякуй».

Дарэчы, цудоўная песня «Дуда, лютня ды бубен», якую мне чамусьці прыпісваюць, не мая, я яе толькі пераклаў. Напісаў жа яе вельмі таленавіты чалавек, удзельнік нашага гурта Аляксандр Кішкін, які, відаць, аказаўся непадрыхтаваным да значэння, якое адыгралі для Беларусі гэтая і іншыя ягоныя песні. Інакш я не магу растлумачыць яго маўчанне, якое трывае і дагэтуль: для самазаспакойвання можна называць сябе Сэлінджэрам і пасля ўдалага дэбюту зачыніцца і не выходзіць на публіку. Але шкада патэнцыяльных твораў, якія маглі б стаць класікай, ня горшай за знакамітую «Дуду, лютню ды бубен».

**– Зміцер, ці працягваеш ты ў сваёй творчасці «камэлотаўскую» тэматыку?**

– «Камэлотаўская» тэматыка настолькі неабсяжная, што яе нельга вось так проста скончыць... Творчасць «Камэлота» была прысвечана намаляванню шырокага вобраза жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім, стварэнню яго міфалагічнай карціны, каб яна лёгка ўспрымалася чалавекам канца XX стагоддзя, адразу клалася на ўсе ягоныя рэцэптары не толькі факталагічна-разумова, але і эмацыйна. Таму зараз закрываць гэтую тэматыку проста нельга, у ёй ёсць патрэба. Фактычна, «Камэлот» займаўся тым, чым Уладзімір Караткевіч займаўся ў літаратурным жанры, а польскі рэжысёр Ежы Гофман ажыццяўляў сродкамі кінематографа. Бо толькі ведаючы свой гістарычны падмурак нашыя сучаснікі змогуць усвядоміць, як ім жыць зараз, з якой адказнасцю да саміх сябе ставіцца і што нам усім рабіць далей. У суседніх Літве і Польшчы гістарычна-рыцарская тэматыка настолькі глыбокая, настолькі шырока прадстаўленая, ёю прасякнута ўсё, ад агульнаадукацыйнай школы да дзяржаўнай ідэалогіі, што нам і не снілася. Бо гэта дае плён не толькі развіццю культуры, але і іміджу краіны наогул.

**– Цябе часта можна бачыць на канцэртах праекта «Легенды Вялікага Княства». Ці працягваецца ў дадзены момант гэта супрацоўніцтва?**

– Спадарыня Арына Вячорка, духоўная «маці» праекта «Легенды Вялікага Княства», не аднойчы сцвярджала, што яе натхнілі на гэтую працу менавіта песні гурта «Камэлот». Дык я не мог не прыняць удзел у яе канцэртах, вы ж разумееце! Але па ходу рэалізацыі першапачатковая задума праекта змянілася: «творчы», так бы мовіць, падыход (калі дыск кампануецца творамі сучасных аўтараў) саступіў месца «дакументальнаму»: гэта значыць, адшуканню ў сховішчах і архівах адпаведных музычных твораў, якія б былі цікавымі для сучасных слухачоў, і выкананню гэтых твораў даступнай для масавага слухача мовай. Гэта мяне не вельмі цікавіць, бо я ўсё ж аўтар, а не музейны работнік. Апроч таго, у нас існуе шмат іншых даследчыкаў, у чыім выкананні гэтая тэматыка гучыць больш выйгрышна. Варта ўспомніць хаця б Т.Кашкурэвіча, А.Лася, У.Берберава.

Мае ж песні настолькі ж дакументальныя, наколькі дакументальным можа лічыцца раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіча альбо раманы Вальтэра Скота і Генрыка Сянкевіча. Я выкарыстоўваю гістарычныя падыходы для таго, каб сучасныя праблемы набылі дастатковую глыбіню і кантрастнасць. Вось калі Арына Вячорка загарыцца ідэяй запісу такога дыска, я не выключаю ў ім свайго ўдзелу. Хаця я цяпер магу, пры наяўнасці сваёй студыі, запісваць і выдаваць уласныя дыскі, дык нашто траціцца на іншыя праекты? Хіба я напішу настолькі багата матэрыялу, што будзе няцяжка ім падзяліцца.

**– Зміцер, ці ёсць у цябе жаданне пашырыць тэматычны і стылёвы спектр сваіх песень?**

– Старажылы беларускага бардаўскага руху яшчэ памятаюць мяне як барда і ў «дакамэлотаўскі» перыяд, калі я спяваў на іншыя тэмы, але гістарычная песня настолькі прыцягвае і з'яўляецца актуальнай у нашай сітуацыі, што абсалютна не хочацца ад яе сыходзіць. Як з тым Караткевічам, які меў прыхільнасць да гістарычнага рамана. Але нешта прыдумляў і пра сучаснікаў, напрыклад раман «Нельга забыць». Хоць і там ёсць гістарычныя алюзіі і планы.

Разам з тым ёсць і іншыя задумы. Напрыклад, за некалькі гадоў у мяне накапілася інструментальных нумароў прыкладна на гадзіну гучання, дык чаму не ўявіць дыск пад умоўнай назвай «Тэатральная музыка №1»? Ёсць задума стварыць нешта ў стылі «саунд-трэк неіснуючага фільма», для чаго трэба шукаць актораў і выканаўцаў. І раней, і зараз даводзілася і даводзіцца пісаць музыку да розных пастановачных работ: я напісаў музыку да 4-х кароткаметражных фільмаў – мастацкіх і дакументальных, да 2-х спектакляў... Зараз у мяне на «стале» такі цікавы праект, як музыка да дзіцячай казкі «Прыгоды мураша Ферды» чэшскага пісьменніка Андрэя Секары, які мы зробім, калі ніщто не зашкодзіць, сумесна з акцёрам Ю.Жыгамонтам. Кіраўнік рыцарскага клуба «Ордэн Паўночнага Храма» Зм. Нясцюк папрасіў напісаць твор са скразным сюжэтам, які мог бы быць пастаўлены сіламі клуба...

Наогул ёсць шмат найцікавейшых прапаноў, толькі калі рабіць усё задуманае, трэба быць гатовым да пэўнага маўчання яшчэ нейкі час – бо калі пасоўваешся наперад шырокім фронтам, то заўсёды на малы крок.

Я маральна гатовы, што рэалізавана будзе толькі невялічкая частка і самае актуальнае з пералічанага, бо я ж, па прафесіі матэматык-механік, і не магу займацца толькі музыкай, як, напрыклад, робяць таленавітыя і вельмі працавітыя Лявон Вольскі ці Зміцер Вайцюшкевіч. Штодня восем гадзін я працую па сваёй спецыяльнасці, акрамя таго, ёсць сямейныя клопаты.

**– А як хутка можна будзе пазнаёміцца з тваім сольным альбомам?**

– Сольны альбом – гэта самае лёгкае, што можна зрабіць, бо гэта як бы твой дзённік, перададзены песнямі. Я пачаў запісваць такі дзённік і матэрыялу за апошнія гады назбіралася шмат. Трохі тармозіць тое, што ўсе трэкі даводзіцца наігрываць самому. Няма зараз вольных музыкаў! Але паколькі я граю на гітары, флейце, дудзе, клавішных і ўдарных, думаю, што мне самога сябе на запісу будзе дастаткова.

Даўно натхняе і знаходзіцца ў чарнавым варыянце інструментальны твор «Каранацыя Міндоўга», дзе беларуская дуда павінна гучаць на фоне сімфанічнага аркестра. Наогул надышоў час увесці гэты вельмі важны, фундаментальны для Беларусі інструмент — дуду (валынку, bagpipes) у наш класічны музычны ўжытак. Цікава, што думаюць на гэты конт сябры Саюзу кампазітараў?

**– Бард без выступаў – несапраўдны бард. Дзе табе даводзіцца выступаць у дадзены момант?**

Няўжо склалася ўражанне, што я сяджу зусім без выступаў? Ні ў якім разе! У сярэднім, у мяне два-тры выступы на месяц, а гэта не так мала для чалавека, які неабачліва даў сабе калісьці слова выходзіць на публіку толькі па меры з'яўлення новага матэрыялу. А публіка ўвесь час патрабуе! У Беларусі зараз вельмі шмат аўдыторый, дзе хочуць пачуць гістарычную песню, апошнім часам паўсюль адбываецца сапраўднае «культурна-еўрапейскае адраджэнне», як бы я назваў. Можа, не такое маштабнае, як хацелася б, але не параўнаць з тым, што было некалькі гадоў таму. Я звычайна адгукаюся, калі запрашаюць прыехаць. Але тут ёсць адна акалічнасць — мне больш падабаюцца невялікія аўдыторыі. Бо паміж песнямі я люблю нешта распавядаць. А расказаць ёсць пра што. У такім разе працуе не толькі песня, але і кароткі аповед, які яе суправаджае. Так нараджаецца новы літаратурна-музычны жанр. Вось толькі апошнім часам у мяне адбыліся два канцэрты: адзін у Вільні, другі – на Беласточчыне. Адбыўся такі мікратур па тэрыторыях, якія знаходзяцца за дзяржаўнай мяжой Беларусі. Я ўпэўніўся, што мае песні «пайшлі ў народ» – іх ведаюць, мне даволі актыўна падпяваюць, дзе б я не з'явіўся.

Улетку мінулага года я з сынам паехаў на рыцарскі фэст у Нясвіж. Узяў з сабою дуду, гітару. Паехаў без усялякіх пэўных планаў, проста адпачыць. І вось на месцы адзеў на сябе сярэдневечную вопратку, узяў дуду і зайграў. Вакол мяне хутка сабраўся натоўп - людзі пачалі кідаць грошы, але не як жабраку, а як вандроўнаму музыку. Такі «прыкол»! Вакол мяне бегаў мой сын, які ствараў своеасаблівы антураж, хутка падышлі сябры з рыцарскіх клубаў, дзяўчаты пачалі танчыць, да мяне далучыўся музыка з бубнам. Атрымаўся забаўны фестывальны вулічны выступ у еўрапейскім стылі.

Па прыездзе ў Мінск я загарэўся зрабіць у такім стылі цэлы канцэрт. На конт гэтага ёсць некалькі прапаноў, але я не спяшаюся: усё павінна скласціся натуральна, каб не адчувалася «сырасць» матэрыялу.

Да таго ж у Нясвіжы я пазнаёміўся з цікавымі музыкамі польскага гурта «Open Folk», якія граюць кельцкі фальклор, так бы мовіць, «з пункту гледжання» жыхара мясцовых тэрыторый – Кароны і Вялікага княства Літоўскага. Хлопцы з «Open Folk» папрасілі мяне выступіць менеджэрам для іх канцэртаў у Кіеве і Маскве. Па гэтых пытаннях цяпер вядуцца перамовы. Спраў хапае, хапіла б сіл.

**Гутарыў Анатоль МЯЛЬГУЙ**
**Фота І. МАРАЧКІНА**

# Кузіна Сцяпана Батуры

Сучаснаму чытачу Трансільванія вядомая найбольш тым, што там жыў знакаміты па фільмах жахаў граф Дракула – рэальны валашскі князь Улад Тэпеш, які надта любіў садзіць людзей на палі, іншым разам некалькі тысяч чалавек на адным полі адначасова падымалі на завостраных калах. Паспрачацца з ім у падобным захапленні магла б толькі яго суайчынніца графіня Лізавета Баторы – прыгожая, як анёл, і жорсткая, як д`ябал.



Яна нарадзілася ў 1560 годзе ў вельмі арыстакратычнай пратэстанцкай сям`і. Дастаткова сказаць, што яе дваюрадны брат ні хто іншы, а шанаваны ў нашай гісторыі Сцяпан Батура, абраны на караля польскага і вялікага князя літоўскага. Са сваячкай яму не пашанцавала, яе змрочная слава кінула на ўвесь род такі змрочны цень, што і сёння робіцца жудасна людзям, калі чуюць імя графіні.

Яшчэ ў зусім маладыя гады Лізавета любіла біць бізуном сваіх служанак. Кроў, што цякла з ранаў няшчасных дзяўчат, прыводзіла юную садыстку ў замілаванне. Пачуўшы смак ад такіх заняткаў, Лізавета пачала запісваць у дзённік ўсе дэталі сваіх пацяшанак і рабіла гэта на працягу 35 гадоў.

Пятнаццаці гадоў яна стала жонкай графа Феранца Надашды, выдатнага вайскаводца, які праславіўся ў бітвах супраць Асманскай імперыі. Лізавета нарадзіла яму трох дачок і сына. Але клопаты пра дзяцей ніяк не змякчылі дзікі нораў маладой графіні.

Калі муж знаходзіўся ў замку, Лізавета стрымлівала сябе, абмяжоўваючы свае здзекі з падуладных ёй служанак бізуном ды дубінай. Але пры ад`ездах мужа на вайну яна давала волю сваёму патэнцыялу садызму: абранай ахвяры яна забівала пад пазногці цвікі, калола іголкамі ў губы, у грудзі, падпальвала свечкай валасы ў інтымных месцах. Гэтым вытанчаным прыёмам здзекаў навучыла графіню ейная цётка Карла, якая была патаемнай каханкай Лізаветы.

Болей за ўсё Лізавета баялася састарэць. Аднойчы ёй на скуру папала кроў дзяўчыны, якую яна бязлітасна біла бізуном. Графіні здалося, што скура на гэтым месцы памаладзела і выглядае лепш. З дапамогай слуг дзяўчыну раздзелі і зарэзалі, сабраўшы кроў у бадзейку, і Лізавета тады ў першы раз абмылася крывёй. Яе жывы розум падказаў ёй рацыянальны метад збору крыві – была сканструявана гэтак званая «жалезная дзева» – пустая калода, якая імітавала жаночыя формы. Ахвяру клалі ў гэтую «дзеву», рэзалі вены, кроў з іх па спецыяльных трубках цякла ў спецыяльны басейн, у якім ужо чакала амаладжэння графіня.

У крывавых забавах Лізавеце дапамагалі давераныя слугі, а найперш нянька маленькага сына графіні. Яна разам са сваёй пані замардавала нават сваю родную сястру. За нейкую дробную правіннасць дзяўчыну раздзелі, абмазалі мёдам і кінулі ў мурашнік на пакутлівую смерць.

Служанкі Лізаветы лічылі, што ім надта пашанцавала, калі іх проста прымушалі голымі працаваць у пакоях, бо графіня іншым разам выстаўляла голых дзяўчат на мароз і палівала вадой.

З падказкі сваёй «асістэнткі» Ганны Дарвулі, графіня пачала збіраць па сялянскіх хатах юных дзяўчат, знікненне і смерць якіх не маглі паграджаць ёй небяспечнымі наступствамі. Напачатку адшукваць жывую «сыравіну» для садысцкіх доследаў было проста: бедныя сяляне ахвотна прадавалі сваіх дачок, бо шчыра верылі, што на графскім двары іхнім дзецям будзе лепш, чым у бацькоўскай хаце.

Ненасытная садыстка не грэбавала і выкраданнем дзяўчат. Але часцей яна ўсё ж наймала «здабытчыц». Гэта былі галоўным чынам сталых гадоў удовы, якія ездзілі па ўсёй Трансільваніі ў пошуках кандыдатак на пакутлівую смерць. Дзяўчынак і маладых жанчын графіні прывозілі нават з габрэйскага гета Вены. Адна з такіх удоваў працягвала спраўна пастаўляць чалавечую «сыравіну» нават пасля таго, як графіня насмерць замардавала і яе ўласную дачку.

Узімку 1609 года Лізавета запрасіла ў свой замак дваццаць пяць дачок дробнай шляхты, каб даць ім «заваршальны курс свецкіх манераў». Падчас гэтай навукі некалькі дзяўчат загінулі ў «жалезнай дзеве» ў сутарэннях замка. На гэты раз графіня не здолела пазбегнуць адказнасці. Дзяўчат пачалі шукаць, і знайшлі іхныя целы. Лізавета паспешліва выдумала недарэчную казку, нібыта адна з «курсантак» раптоўна звар`яцела, забіла сяброўак і сама пакончыла жыццё самагубствам. Яшчэ за два гады да гэтай падзеі Лізавеце давялося прадаць адзін свой замак, а другі закласці за дзве тысячы залатых. Напужаныя чуткамі аб магчымым абвінавачанні Лізаветы ў вядзьмарстве (што пацягнула б адняцце ўсіх зямель і маёмасці на карысць царквы) сваякі сустрэліся з пфальцграфам Трансільваніі графам Тужо і папрасілі яго расследаваць злачынствы графіні. Адначасна загад на такое расследаванне аддала каралеўская ўлада.

Граф Тужо правёў у замку Лізаветы вобшук і знайшоў у пакоях тры мёртвыя целы. Графіню злавілі з доказамі злачынства. Пачаліся судовыя слуханні. Семнаццаць сведкаў, усе слугі і былыя «асістэнты», расказвалі суду аб зверствах Лізаветы ў яе замках. Дорка прызналася ў саўдзеле ў трыццаці шасці забойствах, Фічка ўзгадаў трыццаць сем, яшчэ адна служанка сказала, што мусіла дапамагаць графіні адабраць кроў у пяцідзесяці ахвяраў.

Граф Тужо, ратуючы гонар роду Баторы, замест вусных паказанняў Лізаветы, падаў суду яе дзённік з апісаннямі шасцісот пяцідзесяці садысцкіх забойстваў, якія яна здзейсніла за трыццаць пяць гадоў

У студзені 1611 года суд прысудзіў дзвюм злосным служанкам графіні адарваць пальцы абцугамі, а потым спаліць іх жывымі. Карліка Фічко, які быў паслухмяным выканаўцам усіх задумаў графіні, прыгаварылі да спалення, але перад кастром зрабілі яму міласць і адсеклі галаву.

Для галоўнай вінаватай граф Тужо прыдумаў вытанчанае пакаранне. «Ты дзікі звер, Лізавета! – заявіў ён графіні. – Ты недастойна нават дыхаць свежым паветрам і бачыць святло божае. Змрок ахіне цябе, і ты будзеш доўга аплакваць сваё злачыннае жыццё!»

Адпаведна з прысудам графіню Лізавету Баторы замуравалі ў пакоі, дзе яна пралівала кроў няшчасных дзяўчат. У сцяне была пакінута толькі шчыліна, каб перадаваць хлеб і ваду. Там графіня, не бачачы святла, дыхаючы смуродам, пражыла тры гады, спадзеючыся на вызваленне. Аднаго ранку турэмшчык зазірнуў праз шчыліну ў вязніцу – графіня валялася на падлозе.

**Іна ПЁТУХ**

# *Аляксандра Македонскага атруціла жонка*

Ён заваяваў амаль увесь свет і стварыў самую вялікую імперыю ў старажытнай гісторыі. Але раптоўная смерць Аляксандра Вялікага ва ўзросце 32 гадоў тысячагоддзямі заставалася загадкай. Адны эксперты сцвярджаюць, што ён памёр ад малярыі, іншыя мяркуюць, што прычынай смерці стаў брушны тыф, выкліканы заражанай ежай, ці захворванне печані ў выніку вакханаліяў.

Але, згодна з новай гіпотэзай, ён стаў ахвярай сваёй жонкі Раксаны. Гавораць, што яна атруціла яго малавядомым тады ядам, стрыхнінам. Адкрыццё заінтрыгуе тых, хто шукае разгадку злачынства, якое стагоддзямі займае дапытлівых вучоных. Яно можа таксама зноў выклікаць цікавасць да асобы Аляксандра.

У бліжэйшы час вялікі цар старажытнасці з'явіцца ў двух галівудскіх фільмах. Карціна Алівера Стоўна «Аляксандр Вялікі» з удзелам Каліна Фарэла і сэра Энтані Хопкінса выходзіць на экраны ў лістападзе. Яшчэ адзін хіт з той жа назвай, над якім працуе стваральнік фільма «Мулен Руж» Баз Лерман і ў якім здымаецца Леанарда Дзі Капрыё, павінен выйсці ў 2006 годзе.

Гіпотэзу аб раўнівай жонцы высоўвае Грэхем Філіпс, папулярызатар гісторыі, які мяркуе, што Аляксандр быў забіты Раксанай у адплату за тое, што ён узяў сабе яшчэ адну жонку, альбо за тое, што ён выстаўляў напаказ сваю гомасексуальную сувязь з Гефестыёнам, які таксама памёр пры загадкавых абставінах.

Грэхем Філіпс даводзіць, што і ў Гефестыёна, і ў Аляксандра праявіліся класічныя сімптомы атручэння стрыхнінам. Раксана была ў малым ліку людзей, якія ведалі аб смертаносных якасцях расліны Strychnos nux vomica

Тое, што вядома аб раптоўнай смерці Аляксандра, пачынаецца ў Вавілоне, культурнай сталіцы старажытнага свету, з пахавальнага піру, наладжанага напрыканцы траўня 323 года да новай эры ў гонар нябожчыка Гефестыёна.

Рымскія гісторыкі, якія апісвалі гэты пір, выказваюць меркаванне, што Аляксандр перад тым, як паваліцца, адчуў моцны прыступ болю. «Першапачатковымі сімптомамі былі ўзбуджанне, дрыжыкі, боль ці анямення шыі, а потым пачаўся сільны боль у страўніку», – сцвярджае Філіпс у сваёй новай кнізе «Аляксандр Вялікі. Забойства ў Вавілоне».

Пасля ён паваліўся і адчуваў пакутлівы боль, дзе б яго не краналі. Аляксандр таксама адчуваў моцную прагу, ліхаманку і трызненне, усю ноч у яго былі канвульсіі і галюцынацыі. «На апошніх этапах ён не мог гаварыць, хоць мог варушыць галавой і рукамі. У рэшце рэшт, яго дыханне стала цяжкім, ён упаў у кому і памёр».



Таксіколагі з Універсітэта Каліфорніі паведалі Філіпсу, што сімптомы супадаюць з сімптомамі атручання стрыхнінам, ядам, які дзейнічае на нервовыя канчаткі, што кантралююць мышцы цела. Стрыхнін у той час быў невядомы на Захадзе, бо яго здабывалі з расліны, якая расла толькі ў даліне Інда, дзе Аляксандр пабываў за два гады раней. Раксана, якая суправаджала Аляксандра ў паходзе, зацікавілася мясцовымі звычаямі і, як засведчана, пабывала ў святым лесе, дзе мясцовыя жрацы, магчыма, скарыстоўвалі невялікія дозы стрыхніну, каб выклікаць духоўныя ўяўленні.

«Адзіны чалавек, які ведаў аб стрыхніне, была Раксана. Яна не проста пабывала ў Індыі, яна ведала мясцовыя звычаі. Я прыйшоў да высновы, што яна магла яго забіць», – заявіў Філіпс.

Прафесар Оксфарда Робін Лейн-Фокс, гістарычны кансультант Алівера Стоўна, скептычна ставіцца да сцвярджэнняў аб вінаватасці Раксаны. «Калі б вы вырашылі забіць Аляксандра, трэба было б дзейнічаць напэўна, каб ён памёр на месцы. Вы не сталі б рызыкаваць, выкарыстоўваючы атруту, якая выклікае запаволеную смерць, што ўзбудзіла б падазрэнні», – сказаў прафесар Лейн-Фокс. – Мы не ведаем, з-за чаго ён памёр. У Аляксандра было шмат старых ранаў, ён рухаўся па балотах, дзе панавала малярыя, ён піў усю ноч. У яго мог проста здарыцца прыпадак».

Але можа быць, што Раксане было прыемна глядзець, як пакутуе чалавек, які абразіў яе, узяўшы новую жонку.

*News.Battery.Ru*

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
e-mail: nchas@tbm.org.by
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 741
Падпісана да друку 14.10.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.